# Рэгіянальная газета.

Rh.by

rg_rhby
rh_by

Выходзіць па пятніцах. Выдаецца з красавіка 1995 года. Выдавец ТАА «Рэдакцыя газеты «Рэгіянальная газета».

19 сакавіка 2021 года №12 (1351)

18+




З Днём Волі!



# «На плошчы паглядзела на яго і адразу закахалася»

**Гісторыя кахання, якое нарадзілася падчас пратэстаў у Смаргоні. Яго выслалі з краіны на пяць год, яна засталася ў Беларусі**

старонка 5

Цімафей Петуноў і Рыма Пляхімовіч.

Фота забяспечанае Рымай ПЛЯХІМОВІЧ.

ISSN 1991–7155



Адсканўйце QR-код, каб перайсці на наш сайт rh.by






Фатограф Сяргей Гапон стаў пераможцам конкурсу сацыяльных праектаў Social Weekend з праектам Kreva Create. Вынікам павінны быў стаць творчы фэст у 2020 годзе, але мерапрыемства адклалі.

# Пачалося галасаванне за сацыяльныя праекты

**Ідзе 16-ы сезон найбуйнейшага ў краіне конкурсу сацыяльных праектаў Social Weekend.**

Удзельнікамі гэтага конкурсу ў мінулыя сезоны былі вілейскі скейт-парк, маладзечанская «Вуліца стрытфуда» і іншыя ініцыятывы, у выніку якіх змянялася асяроддзе.

> **У гэтым сезоне конкурсу за выхад у чвэрцьфінал змагаецца больш за 300 праектаў. Гэта ініцыятывы экалагічных, адукацыйных, культурных, спартыўных і іншых кірункаў.**

Прызавы фонд конкурсу складае каля ста тысяч рублёў. Іх раздзеляць паміж пераможцамі конкурсу, сродкі пойдуць на ўвасабленне заяўленага праекта. Каб атрымаць сродкі, неабходна прайсці ўсе этапы конкурсу.

Народнае галасаванне – адзін з этапаў конкурсу. Такім чынам праекты правяраюць на запатрабаванасць, аўтары ідэй атрымліваюць зваротную сувязь і рэакцыю экспертаў.

50 камандаў, якія пройдуць у чвэрцьфінал, змогуць прайсці адукацыю ў галінах маркетынгу, бізнес-мадэлявання, прасоўвання, брэндынгу і іншых кірунках, дзякуючы якім атрымаецца палепшыць задуму.

Галасаванне пачалося ад 12:00 серады, 17 сакавіка, і будзе доўжыцца да 21:00 панядзелка, 22 сакавіка.

Кожны з праектаў мае чатырохзначны код. Каб прагаласаваць, трэба адправіць гэты код без прабелаў і іншых знакаў на кароткі нумар 7755. У залежнасці ад апературы цана паведамлення абыдзецца каля аднаго рубля. Падтрымаць праект з аднаго нумара можна толькі адзін раз. Галасаваць можна за любую колькасць удзельнікаў.

### Хто ўдзельнічае з рэгіёна

Убачыць увесь спіс праектаў конкурсантаў і пабачыць код, які дасылаць для галасавання, можна на сайце socialweekend.by. Раскажам пра некалькі праектаў, якія прапануюць прадстаўнікі нашага рэгіёна.

> **У Ашмянах задумалі тры праекты, якія тычацца здаровага ладу жыцця.**

Адзін з іх дапаможа без перашкод перамяшчацца людзям з інваліднасцю. У межах другога плануюць набыць ложак у рэанімацыю для пастаяннага знаходжання ляжачага пацыента. Такі ложак вельмі дапаможа хвораму. А медыкам будзе прасцей яго даглядаць. Трэці праект накіраваны на тое, каб уладкаваць вуліцы і памяшканні трэнажорамі і спартыўным інвентаром.

Задумалі стварыць дзіцячую пляцоўку ў дашкольным цэнтры развіцця дзіцяці ў Ашмянах. У цэнтры ёсць інтэграваная група, дзе займаюцца дзеці з ДЦП. У іх няма ўмоў для прагулак. Выправіць гэта мяркуюць з дапамогай конкурсу.

Яшчэ адна ініцыятыва ашмянцаў – інклюзіўны пляж у рысе горада. Для гэтага трэба расчысціць участак гарадскога пляжа, каб на яго было прасцей трапіць. Выкласці цвёрдае пакрыццё да вады, зрабіць плаўны ўваход у ваду.

> **На тэрыторыі Смаргонскага цэнтра творчасці дзяцей і моладзі плануюць уладкаваць скаладром.**

Аўтары лічаць, што скаладром прыцягне падлеткаў да актыўнага баўлення часу і ўмацуе здароўе. Таксама смаргонцы хочуць арганізаваць у горадзе скейт-парк. Цяпер падлеткі займаюцца скейтамі на плошчы, дзе замінаюць мінакам, а мінакі – ім.

> **Маладзечанцы задумалі стварыць валейбольную лігу для школьнікаў раёна.**

Яна аб'яднае каманды Радашкавічаў, Алёхнавічаў, Краснага, Чысці. Паміж камандамі будуць ладзіць чэмпіянаты цягам навучальнага года. Яшчэ адна ідэя – стварыць кароткаметражны фільм пра захаванне мэт устойлівага развіцця на прыкладзе рэалізаваных праектаў у Маладзечне ад 2015 года.

У працяг развіцця прасторы ў Маладзечне з'явіўся праект URBAN CUBE – серыя аб'ектаў гарадскога дызайну, якія будуць прыцягваць мясцовых жыхароў да сумесных дзеянняў. Такіх аб'ектаў задумалі чатыры: першы – для актыўнага адпачынку і даследавання для дзяцей і падлеткаў. Другі – для абмену кнігамі, рэчамі, цацкамі, ідэямі. Трэці – пляцоўка для выстаў, тэатральных прадстаўленняў, кінапраглядаў, рухомых практык. Чацвёрты – для сустрэч і размоў мясцовых жыхароў.

> **Конкурс сацыяльных праектаў Social Weekend існуе больш за сем год. За гэты час у ім удзельнічала каля 4000 ідэй.**

Дзякуючы конкурсу праекты атрымалі падтрымку ў больш як 400 тысяч долараў у эквіваленце.

Арганізатар Social Weekend – мясцовы сацыяльны фонд «Добра», мэта якога – прыцягненне рэсурсаў бізнесу: інтэлектуальных, грашовых і іншых – для інвеставання ў сацыяльныя стартапы і дасягненне мэт устойлівага развіцця. Фонд таксама з'яўляецца Офісам Сеткі Глабальнага дагавора ААН у Беларусі.

**Аддзел інфармацыі.**




Фота tut.by.

Дзмітры Гарланаў падчас працы ў Вілейцы.

# Райвыканкам – пакуль без галоўнага архітэктара

## Дзмітры Гарланаў сышоў з пасады

ВІЛЕЙКА

**12 сакавіка стаў апошнім днём працы ў Вілейскім райвыканкаме начальніка аддзела архітэктуры і будаўніцтва Дзмітрыя Гарланава. Пра гэта нам паведамілі ў аддзеле кадравай работы райвыканкама.**

– Пакуль абавязкі начальніка ўскладуць на супрацоўніцу аддзела **Алену Лях**, – паведаміла начальнік аддзела кадравай работы **Наталля Зык**.

Нагадаем, што Гарланаў узначальваў аддзел архітэктуры і будаўніцтва Вілейскага райвыканкама ад снежня 2017 года. А ў аддзеле працаваў ад 2014. Сярод яго вядомых праектаў яшчэ да пасады галоўнага архітэктара – скейтпарк і велапаркоўка на цэнтральнай плошчы ў Вілейцы. А ўжо як пры начальніку аддзела пры ім пачалі распрацоўваць дэталёвы план забудовы новага мікрараёна Паўночны-5 са шматпавярховікамі, школай-садком, сучаснымі дзіцячымі пляцоўкамі.

Родам Дзмітры Гарланаў з Бабруйска, выпускнік БНТУ. У інтэрв'ю «Рэгіянальнай газеты» архітэктар расказваў, што прафесію выбраў гледзячы на маці, якая таксама скончыла БНТУ (тады політэхнічны інстытут) па спецыяльнасці «архітэктура» і ўсё жыццё адпрацавала архітэктарам у праектных бюро ў Бабруйску.

Тады ж ён прызнаўся, што да таго, як з'явіцца ў Вілейцы, пра горад амаль не ведаў. А пры першай сустрэчы захапіўся акуратнай, гарманічнай плошчай і прыемна здзівіўся суседству касцёла і царквы.

Акрамя працы ў аддзеле архітэктуры, Дзмітры Гарланаў з аднадумцамі спрыялі развіццю роварнай інфраструктуры ў Вілейцы, ладзілі культурніцкія праекты. Галоўны архітэктар быў адным з арганізатараў у горадзе фестывалю моладзевых субкультур «Энергія маладосці». Сюды запрашалі скейтараў, бодзібілдараў, варкаўтараў і іншых спартсменаў, музычныя і танцавальныя беларускія гурты.

Будучыню горада Гарланаў бачыў у тэматычных шматфункцыянальных грамадскіх прасторах, дзе людзі ўсіх узростаў могуць знайсці тое, што падабаецца, збірацца сям'ёй, з сябрамі, знаёміцца, адпачываць і святкаваць.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

## Адрамантавалі камп'ютарны тамограф

МАЛАДЗЕЧНА

У Маладзечне аднавіў працу камп'ютарны тамограф.

11 сакавіка спецыялісты завяршылі рамонтныя і пусканаладачныя работы на ім. У кавідны год гэта высокатэхналагічнае абсталяванне выкарыстоўвалася вельмі актыўна і ў выніку зламалася.

Адзначым, што з дапамогай КТ можна правесці дыягностыку практычна ўсіх органаў і тканак чалавека – вывучыць сардэчна-сасудзістую сістэму, праверыць мяккія тканкі арганізма, косці. Дадзены метад візуалізацыі дазваляе, у тым ліку, пацвердзіць або заўважыць каронавірусную інфекцыю.

**Паводле Міністэрства аховы здароўя.**

## У Беларусь прыйшоў новы штам каронавіруса – «брытанскі»

У Беларусі зафіксавалі некалькі першых выпадкаў інфікавання брытанскім штамам COVID-19.

Гэта пацвердзілі даследаванні спецыялістаў Рэспубліканскага навукова-практычнага цэнтра эпідэміялогіі і мікрабіялогіі (РНПЦ). Як распавяла загадчыца лабараторыі **Алена Гасіч**, у РНПЦ пастаянна праводзяцца даследаванні па генатыпаванні і вызначэнні мутацый віруса SARS-CoV-2, які цыркулюе або завозіцца на тэрыторыю краіны.

Першыя ўзоры брытанскага штаму беларускія спецыялісты знайшлі ў асоб, якія прыбылі з-за мяжы – Польшчы, Украіны, Егіпта.

Яшчэ некалькі станоўчых узораў атрымалі ў асоб, інфікаваных на тэрыторыі краіны.

Нагадаем, што новы варыянт віруса SARS-CoV-2, які атрымаў найменне B.1.1.7 быў знойдзены ў лістападзе 2020 года. Паводле дадзеных Сусветнай арганізацыі аховы здароўя, у агульнай складанасці ўжо больш за сто краін ва ўсіх шасці рэгіёнах свету паведамілі пра выпадкі распаўсюджання «брытанскага» варыянту штаму каронавіруса.

**Паводле Міністэрства аховы здароўя.**

**ЛІЧБА НУМАРА**

**4,2 мільёна**

стольki галоў буйной рагатай жывёлы было ў гаспадарках Беларусі на 1 сакавіка 2021 года

**Паводле Белстата.**

| КУРСЫ ВАЛЮТ НБ РБ | 11.03 | 18.03 |
|---|---|---|
| | руб. | руб. |
| Долар ЗША | 2.6048 | 2.5971 |
| Еўра | 3.0957 | 3.0896 |
| Злоты, 10 | 6.7799 | 6.7153 |
| Расійскі рубель, 100 | 3.5198 | 3.5535 |
| Грыўня, 100 | 9.4006 | 9.3707 |
| **Курсы ў «Банку БелВЭБ»** | **10.03** | **17.03** |
| Еўра | 3.0600/3.1600 | 3.0400/3.1400 |
| Долар ЗША | 2.5600/2.6400 | 2.5500/2.6300 |

ЦЭНЫ НА РЫНКУ (Маладзечна)

| ПРАДУКТЫ | 10.03 | 17.03 |
|---|---|---|
| | Цана, руб. | |
| Кілбаса «Мядовая», 1 кг | 22,57 | 20,71 |
| Кураня-бройлер, 1 кг | 3,50 | 3,50 |
| Сасіскі, 1 кг | 7,76 | 7,40 |
| Свініна (выразка), 1 кг | 9,00 | 9,00 |
| Карп жывы, 1 кг | 4,90 | 4,90 |
| Мінтай свежамар., 1 кг | 4,40 | 4,40 |
| Селядзец, 1 кг | 6,20 | 6,20 |
| Скумбрыя х/в, 1 кг | 18,80 | 18,80 |
| Грэчка, 0,8 кг | 2,15 | 2,15 |
| Рыс, 0,8 кг | 2,40 | 2,40 |
| Алей, 1 л | 3,90 | 3,90 |
| Кава «Nescafe», 100 г | 4,80 | 4,80 |
| Маянэз, 400 г | 2,20 | 2,20 |
| Соус «Мінскі», 0,5 л | 1,70 | 1,70 |
| Шпроты, бляшанка, 160 г | 2,00 | 2,00 |
| Яйкі курыныя, 1 дз. | 2,40 | 2,40 |
| Агуркі, 1 кг | 5,20 | 4,50 |
| Баклажаны, 1 кг | 7,90 | 6,80 |
| Бульба, 1 кг | 1,00 | 1,00 |
| Буракі, 1 кг | 1,00 | 1,00 |
| Капуста, 1 кг | 0,70 | 1,00 |
| Капуста пекінская, 1 кг | 2,50 | 3,80 |
| Морква, 1 кг | 1,20 | 1,00 |
| Памідоры, 1 кг | 4,50 | 4,50 |
| Перац, 1 кг | 7,90 | 7,50 |
| Радыс, пучок | – | 2,50 |
| Салата, пучок | 0,70 | 0,70 |
| Цыбуля рэпчатая, 1 кг | 1,20 | 1,20 |
| Часнок, 1 кг | 6,90 | 6,90 |
| Шампіньёны, 1 кг | 6,50 | 6,90 |
| Апельсіны, 1 кг | 4,50 | 4,50 |
| Бананы, 1 кг | 3,90 | 3,69 |
| Вінаград, 1 кг | 4,50 | 6,50 |
| Гранат, 1 кг | 6,50 | 6,50 |
| Грушы, 1 кг | 3,50 | 3,50 |
| Ківі, 1 кг | 4,50 | 4,90 |
| Лімон, 1 кг | 4,50 | 3,90 |
| Мандарыны, 1 кг | 4,50 | 4,90 |
| Яблыкі, 1 кг | 2,20 | 2,30 |
| **СЯЛЯНСКІЯ ПРАДУКТЫ** | | |
| Малако, 1,5 л | 1,70 | 1,70 |
| Масла, 1 кг | 18,00 | 18,00 |
| Сала, 1 кг | 13,00 | 13,00 |
| Сыр, 1 кг | 14,00 | 14,00 |
| Тварог, 1 кг | 8,00 | 8,00 |
| Яйкі, 1 дзясятак | 4,00 | 4,00 |

## На Вілейскім вадасховішчы затрымалі браканьераў

ВІЛЕЙКА

4 сакавіка каля дзесяці вечара група Мядзельскай міжраённай інспекцыі аховы жывёльнага і расліннага свету падчас абследавання Вілейскага вадасховішча затрымала двух жыхароў Плешчаніцаў.

Мужчыны з дапамогай забароненых прылад рыбалоўства, 12 лёскавых сетак агульнай даўжынёй 915 метраў, незаконна злавілі 8 судакоў, 13 ляшчоў, 14 акунёў, 7 плотак і 4 карасёў агульнай масай 32,5 кілаграма. Кошт незаконна здабытай прадукцыі – 300 рублёў 73 капейкі. Шкода, прычыненая навакольнаму асяроддзю, склала 112 базавых велічынь – 3248 рублёў.

На месца здарэння выклікалі следча-аператыўную групу Вілейскага РАУС і раённага аддзела Следчага камітэта.

Вілейскія следчыя праводзяць праверку, паведамілі ў Мядзельскай інспекцыі аховы жывёльнага і расліннага свету.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

## Сталічны наркакантроль затрымаў жыхара рэгіёна

МЯДЗЕЛ

На мінулым тыдні сталічны наркакантроль выйшаў на 30-гадовага збытчыка псіхатропаў з Мядзельскага раёна. Мужчыну злавілі на месцы злачынства, калі ён рабіў закладкі.

У тайніках і арэнднай кватэры аператыўнікі знайшлі 840 грамаў мефядрону, 35 грамаў амфетаміну і каля 140 грамаў альфа-PVP. Акрамя забароненага тавару, які мужчына хаваў пад крэслам і ложкам, у пакоі знайшлі электронныя вагі і фасовачныя пакеты.

Устанавілі, што затрыманы некалькі месяцаў таму прыехаў у сталіцу дзеля злачыннага заробку: зняў жыллё і пачаў працаваць у інтэрнэт-краме па продажы наркотыкаў.

Паводле інфармацыі міліцыянераў, ён з'яўляўся буйным збытчыкам: набываў вялікую партыю забароненых рэчываў, фасаваў на дробныя дозы і рабіў закладкі ў сталіцы і Мінскай вобласці.

Следчыя далі прававую ацэнку дзеянням мужчыны і распачалі крымінальную справу за незаконны абарот наркотыкаў. Вядома, што фігурант раней неаднаразова прыцягваўся да крымінальнай адказнасці за маёмасныя злачынствы.

**Паводле МУС.**

## 11-гадовы хлопчык скраў сто долараў і прадаў па курсе, у два разы меншым

МАЛАДЗЕЧНА

42-гадовы мужчына абмяняў сто долараў 11-гадоваму таварышу свайго сына. Ён аддаў за гэта 110 рублёў, фактычна па курсе ледзь не ў два з паловай разы меншым. Сам хлопчык растлумачыў, што нібыта знайшоў долары на вуліцы.

Купюру міліцыянеры канфіскавалі. Мужчыну пагражае штраф ад 50 да 150 базавых велічынь – ад 1450 да 4 350 рублёў.

Але таксама высветлілася, што купюра скрадзеная. У той дзень 11-гадовы школьнік прыйшоў у госці да прыяцеля. Карыстаючыся адсутнасцю дарослых, хлопчык выцягнуў з чужога бацькоўскага кашалька сто долараў.

Пасля чаго ён пайшоў у кампанію аднагодкаў, дзе хваліўся знаходкай.

**Паводле УУС Мінаблвыканкама.**

## З кватэры скралі залатыя ўпрыгажэнні, схаваныя пад падушкай

АШМЯНЫ

У Ашмянах міліцыянеры раскрылі кватэрны крадзеж. Некалькі дзён таму ў дзяжурную часць мясцовага РАУС патэлефанавала 80-гадовая жыхарка і паведаміла, што ў яе з дома зніклі залатыя ўпрыгажэнні, а напярэдадні яна прагнала незнаёмку з прыхожай. Тая самавольна зайшла ў кватэру.

У ходзе правядзення аператыўна-вышуковых мерапрыемстваў удалося ўстанавіць, што падазраваная раней неаднаразова судзімая за здзяйсненне маёмасных злачынстваў. У канцы лютага яна прыехала да знаёмых у Ашмяны з Віцебскай вобласці. 1 сакавіка ўжо наведвала дом пацярпелай. Менавіта тады яна таемна выкрала залатыя ўпрыгажэнні: восем пярсцёнкаў, пару завушніц, кулон і ланцужок, а зараз зноў прыйшла туды ж з аналагічнай мэтай. Падазраваная лічыла, што гаспадыні няма дома, але памылілася. Пенсіянерка ў гэты момант за зачыненымі дзвярыма рыхтавала на кухні абед і на шум выйшла за парог.

Варта адзначыць, што золата гаспадыня захоўвала без прымянення якіх-небудзь мер канспірацыі – проста пад падушкай.

Дзеянням жанчыны дадзеная прававая ацэнка, распачатая крымінальная справа.

**Паводле УУС Гродна.**



Адзін з угнаных аўтамабіляў.

Фота УУС Мінаблвыканкама.

# Браў чужыя машыны, бо хацеў пакатацца

## Мужчыну падазраюць ва ўгоне некалькіх аўтамабіляў і крадзяжы

ВІЛЕЙКА
МАЛАДЗЕЧНА

**У аператыўна-дзяжурную часць Маладзечанскага РАУС сталі паступаць заявы ад жыхароў горада і бліжэйшых вёсак. Людзі паведамлялі пра ўгоны аўтамабіляў, прыпаркаваных каля прыватных домаўладанняў.**

Пачалося з заявы аб крадзяжы бардовага «Фольксвагена-Гольфа» з Першага праезда Горкага. Па словах уладальніка, аўто было адкрытае, а ключы – у замку запальвання. Невядомыя скарысталіся бестурботнасцю мужчыны і з'ехалі на чужой машыне. Праз суткі скрадзены аўтамабіль сышчыкі знайшлі кінутым у кювеце паблізу вёскі Вяжуці Маладзечанскага раёна, аднак аператыўна затрымаць зламысніка не ўдалося.

Другую машыну скралі ў вёсцы Рагазы ў ноч з 4 на 5 сакавіка. Мужчына на прысядзібным участку пакінуў аўтамабіль «Фіят» адкрытым, з ключамі ў замку запальвання. Скарыстаўшыся гэтым, зламыснік завёў рухавік і з'ехаў. Але праз трыста метраў легкавік заглух. На раніцу кіроўцы, якія праязджалі міма, паведамілі ў дзяжурную часць міліцыі пра аўто ў кювеце.

Серыю крадзяжоў дапоўнілі яшчэ два – у Мыслевічах і Вытрапаўшчыне. Пацярпелымі сталі жыхары вёсак, уладальнікі аўтамабіляў «Пежо» і «Сітраэн». Па словах гаспадароў, абедзве машыны былі прыпаркаваныя на прыдваровых тэрыторыях і не замкнёныя. Ключы таксама заставаліся ў салоне аўтамабіляў. Ужо ў першыя гадзіны пошукаў пасля таго, як аўтааматары звярталіся па дапамогу ў міліцыю, супрацоўнікі крымінальнага вышуку знайшлі ўгнаныя аўто: «Пежо» стаяла ў Вілейскім раёне на ўзбочыне трасы Р-28, «Сітраэн» знайшлі ў горадзе.

Вывучыўшы ўсе доказы і дэталі, міліцыянеры выказалі здагадку, што да ўсіх выпадкаў датычны адзін і той жа чалавек. У хуткім часе ўстанавілі асобу зламысніка – 24-гадовага ўраджэнца Вілейскага раёна, раней неаднаразова судзімага за крадзяжы і ўгоны. Міліцыянеры затрымалі падазраванага ў Маладзечне, падчас асабістага патрусу знайшлі ў яго ключы, як мяркуецца, ад аднаго з выкрадзеных аўтамабіляў.

Затрыманы не стаў адмаўляць сваёй віны і прызнаўся, патлумачыўшы, што браў машыны для таго, каб пакатацца на іх, а затым кінуць.

Дзеянням маладога чалавека дадуць прававую ацэнку. Акрамя таго, аператыўнікі ўстанавілі дачыненне фігуранта да іншых злачынстваў.

У ноч на 6 сакавіка падазраваны разбіў вітрыннае шкло і пранік у памяшканне аптэкі на вуліцы Скарыны, адкуль выкраў з касавага апарата 354 рублі. Таксама затрыманы падазраецца яшчэ і ў некалькіх крадзяжах з тытунёвых кіёскаў у Маладзечна і суседніх гарадах.

**Паводле УУС Мінаблвыканкама.**

## Кіроўца з'ехаў у кювет. Яго забралі ў рэанімацыю

СМАРГОНЬ

11 сакавіка каля 18 гадзін на аўтадарозе Маладзечна-Смаргонь аўтамабіль «Фольксваген-Шаран» апынуўся ў кювеце.

Устанавілі, што 62-гадовы кіроўца пры руху на прамым участку дарогі, паблізу вёскі Арэхаўка Смаргонскага раёна, не справіўся з кіраваннем, з'ехаў у левы па ходзе руху кювет і перакуліўся. У выніку ДТЗ кіроўца пацярпеў. Мужчыну са шматлікімі траўмамі шпіталізавалі ў рэанімацыйнае аддзяленне мясцовай бальніцы.

Прычыны і іншыя абставіны здарэння ўстановіць праверка.

**Паводле УУС Гродна.**

## Работнікі МНС выцягнулі з перакуленага аўто жанчыну

МЯДЗЕЛ

15 сакавіка каля 21 гадзіны ля Свіры адбылося ДТЗ. Была патрэбная дапамога выратавальнікаў у дэблакіроўцы кіроўцы аўтамабіля.

У гэтым ДТЗ з'ехала ў кювет і перакулілася «Аўдзі». Унутры аўто знаходзілася жанчына, яна была ў свядомасці, аднак самастойна не змагла выбрацца. Жанчыну шпіталізавалі.

**Паводле сайта МНС.**

## Ноччу ў Цюрлях гарэла крама

МАЛАДЗЕЧНА

14 сакавіка каля трох гадзін ночы ў цэнтр аператыўнага кіравання Маладзечанскага ГРАНС паведамілі пра пажар у вёсцы Цюрлі. Гарэла крама.

Да месца выкліку накіраваліся падраздзяленні ратавальнікаў. Пажар патушылі. Агонь пашкодзіў маёмасць, сцены і столь.

Прычыну пажару высвятляюць. Пацярпелых няма, паведамляюць у ГРАНС Маладзечна.

МНС нагадвае: у выпадку пажару і іншых надзвычайных сітуацый неадкладна тэлефануйце на нумары 101 ці 112, не забываючы ўказваць адрас і месца пажару.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

# «Любімыя артыкулы 23.34 вырашылі наш лёс»

## Смаргонца выслалі з Беларусі і забаранілі яму ўезд на пяць год. Тут у яго засталася каханая

СМАРГОНЬ

**З'язджаць з Беларусі Цімафей Петуноў не планаваў. У Смаргоні ён жыве ад 2016 года. Тут – бацька, браты-падлеткі, сябры, сямейны бізнес. Тут – каханне. Але 17 сакавіка мужчына мусіў пакінуць Беларусь не па сваёй волі – на мяжу яго, грамадзяніна Літвы, вывезлі пад канвоем.**

31-гадовага Цімафея выслалі з Беларусі за два парушэнні па артыкуле 23.34 яшчэ старога, дасакавіцкага Кодэкса аб адміністрацыйных парушэннях. Цяпер на працягу пяці гадоў яму забараняецца ўязджаць у краіну.

«Нашы любімыя 23.34 вырашылі яго лёс. Наш лёс», – напісала ў сваіх сацсетках дзяўчына Цімафея, стаматолаг са Смаргоні **Рыма Пляхімовіч**.

### Рыма: Раніца бацькі пачыналася з кавы і радыё «Свабода»

З дзяўчынай Цімафея гутарым пра іх каханне, якое нарадзілася падчас пратэстаў, пра высылку, пра пазіцыю маладых людзей.

Іншай пазіцыі, кажа Рыма, у яе быць і не магло:

– Я сама з вёскі Трабы, што ў Іўеўскім раёне, на мяжы з Ашмянскім. Бацькі – педагогі. Бацька і сёння працуе дырэктарам мясцовай школы. Колькі сябе памятаю, раніца ў дзяцінстве пачыналася з таго, што тата піў на кухні каву і слухаў радыё «Свабода». Калі на адным з допытаў міліцыянеры пачалі палохаць тым, што паедуць у Трабы і будуць праводзіцьператрус у бацькоў на вачах вяскоўцаў, я адказала, што мае мама з татам мной ганарацца.

Смаргонь – не родны горад Рымы, але ўжо і не чужы для яе. Некалькі год пасля заканчэння медуніверсітэта ў Мінску яна працуе тут стаматолагам.

– Працу сваю вельмі люблю. Смаргонь – горад невялікі, – расказвае Рыма. – Таму праз мае рукі прайшла ці не палова горада і раёна. Спачатку працавала ў дзяржаўнай стаматалогіі. Потым сумяшчала з працай у прыватнай клініцы. І ўрэшце з дзяржаўнай сышла зусім. Мае пацыенты – гэта і мясцовыя міліцыянеры, і следчыя, і чыноўнікі выканкама, іх жонкі і дзеці. З Цімафеем, дарэчы, упершыню ўбачылася пару год таму таксама як доктар і пацыент.

### Пра каханне, народжанае падчас пратэстаў

А вось сур'ёзныя адносіны пачаліся якраз падчас жнівеньскіх пратэстаў. Рыма пачала хадзіць на плошчу ад 14 жніўня, калі выйшлі медыкі. Паколькі ў Смаргоні ў яе асаблiва нікога не было, хадзіла з калегамі. Кажа, адной было страшна, бо абараніць яе тады не было каму. У жніўні на плошчы ў Смаргоні збіралася шмат людзей, гэта надавала сіл. З'явіліся аднадумцы. Сярод іх – Цімафей.

– Я на плошчы паглядзела на яго і адразу закахалася. І канешне, чакала ініцыятывы ад мужчыны, – прыгадвае Рыма. – А Цімафей – вельмі стрыманы чалавек. Сваіх адносін ён доўга не паказваў. Нам – па 31 году, але цэлы месяц было нейкае юнацкае каханне. Проста на пратэстах глядзелі адно на аднаго. У мяне ўжо некалькі разоў рукі апускаліся: думала, што не атрымаецца ў нас адносін.

У нейкі час Рыма прыхварэла і перастала па вечарах выходзіць на плошчу. Вось тады Цімафей захваляваўся, пачаў пісаць ёй паведамленні, высвятляць, што здарылася. А была гэта ўжо сярэдзіна верасня, прыгадвае суразмоўца:

– Вось тады я зразумела, што, відаць, і ён неабыякавы да мяне. Неяк выехалі разам на возера Белае. Сядзелі ў машыне, размаўлялі амаль усю ноч. Размаўлялі б і больш, каб раніцай мне не трэба было на працу. З гэтага часу ўжо і не расставаліся амаль. Не разам былі толькі тады, калі спачатку Цімафея, а пасля нас абаіх забралі на суткі.



Фота са старонкі Рымы ў «Фэйсбуку».

Смаргонцы Рыма Пляхімовіч і Цімафей Петуноў пазнаёміліся на пратэстах.

### Міліцыянеры называлі нас Рамэа і Джульета

Першы раз Цімафея затрымалі ў верасні, калі ён пайшоў у краму па соль. Трымалі трое сутак. Пасля на іх жа асудзілі па 23.34. Другі раз Рыма і Цімафей апынуліся на сутках разам па падазрэнні ў тым, што ўдзельнічалі ў мітынгу ў Жодзішках, каля дома старшыні Смаргонскага райвыканкама. Рыму прызналі вінаватай адразу, Цімафея – крыху пазней. Хаця, па словах суразмоўцы, у тым мітынгу яны не ўдзельнічалі.

Прыгадвае, што калі сядзелі ў розных камерах на сутках, то крычалі адно аднаму пра сваё каханне:

– Міліцыянеры нам нават заўваг не рабілі. А калі мы пасля сутак сыходзілі дамоў, казалі: «Вяртайцеся да нас. Калі мы яшчэ пабачым такіх Рамэа і Джульету».

### Да высылкі Цімафея пакінулі ў РАУС

Рыма прызнаецца, што да праблем з міграцыйнай службай ужо былі гатовыя. Незадоўга да гэтага пазбавілі пасведчання на права жыхарства бацьку Цімафея, грамадзяніна Расіі, смаргонца **Ілью Петунова**.

У канцы года ў Цімафея чакаўся суд усё яшчэ па той справе ў Жодзішках. Чакала вынікаў суда і міграцыйная служба. Але пахварэлі многія ўдзельнікі працэсу, пра суд нам ніхто не паведамляў. А 1 студзеня заканчваўся тэрмін, у які разглядаецца адміністрацыйная справа. 31 снежня мы паехалі адзначаць Новы год да маіх бацькоў. І тут, каля 16 гадзін, Цімафею тэлефануе сакратар суда і кажа, што яму трэба з'явіцца ў бліжэйшыя паўгадзіны. Канешне, мы прыехаць не змаглі. Вярнуліся ў Смаргонь 4 студзеня. Цімафей пайшоў у суд, дзе даведаўся, што справу разгледзелі без яго і прызналі вінаватым, – працягвае Рыма.

Атрымаўшы афіцыйны ліст, Цімафей у пачатку сакавіка прыйшоў у міграцыйную службу, дзе ў яго забралі пашпарт, пазбавілі пасведчання на права жыхарства і далі даведку, якой можна пэўны час карыстацца замест пашпарта. 10 сакавіка ў РАУС прызначылі пасяджэнне па пытанні высылкі.

– Да 12:00 я адвезла Цімафея ў міліцыю. Прайшла гадзіна-паўтары. І тут я атрымліваю паведамленне ад яго: «Чакай. Высылаюць. Перададуць паперу». Я зразумела, што да высылкі Цімафея не выпусцяць, і расплакалася. Тут жа выйшлі прадстаўнікі міграцыйнай службы і РАУС і паведамілі, нават са спачуваннем, што да высылкі Цімафей сапраўды застанецца ў міліцыі. А 17 сакавіка яго пад канвоем вывезуць на мяжу. Канешне, у мяне здарылася істэрыка, – прыгадвае Рыма.

### З'ехаць у Літву за каханым? – Не

Пытаюся ў суразмоўцы, ці гатовая яна паехаць у Літву ўслед за каханым.

– Не. Не магу цяпер усё кінуць і з'ехаць. – Я дзесяць год у прафесіі. Шмат чаго тут дасягнула. Стаматолагам хацела стаць ад 13 год. Усяго дабівалася сама. Праўда, бацька пераконваў вучыцца ў Польшчы і я нават збіралася. А пасля зразумела, што хачу быць у сваёй краіне. Сёння шмат дактароў-аднакурснікаў з'ехалі ў Штаты, Польшчу, Канаду, Германію. А я не хацела б ісці на такое. Лічу, чым ехаць у нікуды, лепш застацца тут і перачакаць.

> **Веру: сённяшняя сітуацыя – яна ненадоўга. З намі ўвесь свет. А з Цімафеем мы ўпэўненыя ў сваіх пачуццях.**

Магчыма, праз нейкі час сустрэнемся на нейтральнай тэрыторыі і разам з'ездзім у адпачынак.

Мы маладыя, здаровыя. А цяжкасці – гэта ўсё часова. Часам нават сорамна за свае эмоцыі, калі думаеш пра людзей, якія месяцамі сядзяць у турме.



Аксана ЯРАШОНАК
aksanayarashonak@gmail.com
(8-0176) 53-78-06


Святочным шэсцем кіравала сонейка.

# У выхадныя адзначылі Масленіцу

ВІЛЕЙКА

**Шмат яркіх хустак, вясёлых песень і гульняў, але мала ахоўных масак. Так у Вілейцы адзначылі Масленіцу.**


На сцэне – Андрэй і Марына Дударчыкі.

Ад Палаца культуры ўрачыстым шэсцем з музыкай і песнямі пад баяны артысты па цэнтральнай плошчы прайшлі да Ніжняга парку. Тут разгарнуліся гулянні. Працавалі гандлёвыя рады, фотазона. Работнікі Вілейскага цэнтра гігіены і эпідэміялогіі нагадвалі ўдзельнікам, што трэба берагчы сваё здароўе і раздавалі памяткі-календары. Традыцыйнага масленічнага слупа сёлета не было. Але зладзілі шмат гульняў. Напрыканцы свята спалілі ляльку-Масленіцу.

На беразе Віліі вадзілі карагоды, зладзілі канцэртную праграму з удзелам артыстаў Вілейскага Палаца культуры і калектываў Вілейшчыны.

**Аксана ЯРАШОНАК.**
**Фота аўтара.**

# Дайджэст: Новы старшыня Следчага камітэта і рэкордная інфляцыя

## Што адбывалася ў Беларусі цягам апошняга тыдня

**По традыцыі прапануем чытачам агляд падзей апошняга тыдня ў Беларусі.**

### Вырасла колькасць афіцыйна зарэгістраваных беспрацоўных

На пачатак сакавіка ў Беларусі зарэгістравана 8,3 тысячы беспрацоўных, якія стаяць на ўліку ў цэнтрах занятасці, паведамляе Міністэрства працы. Месяц таму іх было крыху менш – 8,1 тысячы, год таму – на 18 працэнтаў больш (10,2 тысячы чалавек). У гэту статыстыку не ўваходзяць тыя, хто самастойна шукае працу, таму фактычнае беспрацоўе ў Беларусі прыкметна вышэй, чым афіцыйнае. Узровень зарэгістраванага беспрацоўя на 1 сакавіка склаў 0,2% ад эканамічна актыўнага насельніцтва Беларусі і ў параўнанні з 1 сакавіка 2020 года не змяніўся.

### У Беларусі новы кіраўнік Следчага камітэта

11 сакавіка ранейшы кіраўнік **Іван Наскевіч** адпраўлены ў адстаўку. Яго месца заняў **Дзмітры Гара**, які раней быў намеснікам генпракурора Беларусі. Наскевіч быў прызначаны ў 2015 годзе. Да гэтага ён тры гады займаў пасаду пракурора Брэсцкай вобласці.

### Зафіксавалі рэкордную інфляцыю за апошнія пяць гадоў

У Беларусі ў лютым цэны на тавары і платныя паслугі выраслі на 1,9%, вынікае са звестак Белстата. У апошні раз месячная інфляцыя была вышэйшая ў лютым 2016 года – 2,9%. Пры гэтым гадавая інфляцыя ў мінулым месяцы разагналася да 8,7%. Нехарчовыя тавары ў лютым падаражэлі на 1,1%, харчовыя – на 1,8%, а платныя паслугі – на 3,4%. У гадавым выражэнні рост склаў 9,4%, 7,8% і 9,2% адпаведна. Ад лютага выраслі розничныя цэны на лекі, медвырабы, дзіцячыя тавары, некаторыя прадукты харчавання. Гэта звязана з павышэннем ад 1 студзеня падатку на дададзеную вартасць, да лютага розничныя цэны трэба было абнавіць з улікам новага памеру падатку. У студзені таксама павысілі тарыфы на жыллёва-камунальныя паслугі. Але з-за нюансаў статыстыкі гэта падаражэнне адбілася ў дадзеных за люты.

**Паводле mintrud.gov.by, БелТА, tut.by.**

Іван Вярбіцкі.

# Восем год турмы. У Смаргоні агучылі прысуд па справе аб тэрарызме

**11 і 15 сакавіка ў судзе Смаргонскага раёна прайшлі пасяджэнні па справе Івана Вярбіцкага: адбыліся спрэчкі бакоў, падсудны выступіў з апошнім словам, быў агучаны прысуд.**

Судовае пасяджэнне вяла старшыня суда Смаргонскага раёна **Людміла Пятрова** з двума народнымі засядацелямі – **Дукавай** і **Матвеевай**. Дзяржаўны абвінаваўца – **Сяргей Кавальчук**, абаронца абвінавачанага – **Аляксей Крывалапаў**.

Івана Вярбіцкага абвінавачваюць па чатырох артыкулах Крымінальнага кодэкса, у тым ліку і ў падбухторванні да акта тэрарызму.

14 кастрычніка 2020 года Вярбіцкі пакінуў некалькі каментароў у тэлеграм-каналах Ашмянаў і Астраўца. У іх ён нібыта заклікаў закідаць ашмянскую пракуратуру кактэйлямі Молатава, спаліць машыны і маёмасць астравецкіх міліцыянераў. Пазней следства расцаніла гэта, як падбухторванне да акта тэрарызму. Праз тыдзень, 21 кастрычніка, у Вярбіцкага правялі ператрус, знайшлі ў доме патроны і порах. Перад ператрусам Вярбіцкі разарваў пастанову. Усе гэта лягло ў аснову абвінавачання.

Вярбіцкі прызнаў віну толькі па адным артыкуле. Сказаў, што сапраўды разарваў пастанову аб ператрусе. Пра паведамленні ў тэлеграме расказаў, што жорстка пажартаваў. А патроны і порах засталіся ад памерлага бацькі, які быў паляўнічым.

## Спрэчкі бакоў

11 сакавіка прайшлі спрэчкі бакоў. Дзяржаўны абвінаваўца заявіў, што вінаватасць Вярбіцкага цалкам даказаная. Па версіі абвінавачання, дзеянні Вярбіцкага былі накіраваныя на ўздзеянне на прыняцце рашэнняў органамі, на застрашванне насельніцтва, дэстабілізацыю абстаноўкі ў Беларусі.

Дзяржабвінаваўца запрасіў для Вярбіцкага 9 год і 6 месяцаў калоніі ўзмоцненага рэжыму.

Адвакат Крывалапаў выказаў меркаванне, што не знайшлі ніводнага доказу па артыкуле 289 «Акт тэрарызму».

> – Абвінавачанне проста скапіравалі з артыкула Крымінальнага кодэкса. Розніца толькі ў тым, што Вярбіцкаму не прыпісваюць затапленне будынка.

Крывалапаў заўважыў, што дзеянні Вярбіцкага – гэта падбухторванне групы асоб да здзяйснення акта тэрарызму, але хто гэтыя асобы, следства дагэтуль не высветліла. Крывалапаў падкрэсліў, што такіх асоб не існуе: следства не знайшло ні аднаго чалавека, якога Вярбіцкі падбухторваў да акта тэрарызму, а самога акта ўвогуле не было.

Абаронца пацвердзіў, што падабаронны насамрэч пакінуў у тэлеграм-каналах рэзкія каментары, якімі зацікавіліся органы ўнутраных спраў. Але ні следства, ні абвінавачанне не знайшлі доказаў рэальнасці ажыццяўлення акта тэрарызму.

Крывалапаў адзначыў, што каментары Вярбіцкага, якія сталі асновай абвінавачання па артыкуле акта тэрарызму, дагэтуль застаюцца даступнымі ў тэлеграм-каналах. Па словах абаронцы, следства і пракуратура нічога не зрабілі, каб гэтыя каментары былі выдаленыя, іх можа ўбачыць любы чалавек.

Абаронца расказаў, што пакаранне павінна быць сувымернае нанесенай шкодзе. Крывалапаў прывёў прыклад крымінальнай справы, якую разглядаў суд Маскоўскага раёна Мінска. У снежні мужчына атрымаў чатыры гады абмежавання волі без накіравання ў выпраўленчую калонію за званок на лінію 102. Крывалапаў сказаў, што ў прысудзе сказана, што той мужчына патэлефанаваў у 102 і паабяцаў «замачыць» міністра ўнутраных спраў:

– Страшна падумаць, што яго чакала б на Ашмяншчыне. Добра, што ён не патэлефанаваў у Ашмянскі РАУС.

## Апошняе слова і прысуд

15 сакавіка прайшло апошняе пасяджэнне па справе Івана Вярбіцкага. Абвінавачаны выступіў з апошнім словам. У ім зачытаў урывак з «Архіпелага ГУЛАГ», адзначыўшы, што не мог бы ніколі падумаць, што гісторыя паўторыцца ў 21 стагоддзі.

Вярбіцкі падзякаваў родным, валанцёрам, адвакату, журналістам за падтрымку і асвятленне працэсу. Ён сказаў, што прызнае сябе вінаватым толькі па артыкуле аб знішчэнні пастановы аб ператрусе, папрасіў суддзю залічыць час у СІЗА ў прысуд і вызваліць у зале суда, а па астатніх артыкулах апраўдаць.

> **Вярбіцкага апраўдалі толькі па артыкуле за захоўванне выбуховых рэчываў і патронаў.**

Суддзя Пятрова прызначыла пакаранне ў выглядзе 8 год і 1 месяца калоніі ўзмоцненага рэжыму.



Тэкст і фота –
Настасся УТКІНА
anastasiautkina94@gmail.com
(8-0176) 53-78-06

• СТУЖКА ТЭЛЕТЫДНЯ



Скрыншот з фільма «Ход каралевы».

Галоўная гераіня Бэт Харман.

# «Ход каралевы»

## Серыял, які мяняе свет, але не Беларусь

**«Ход каралевы» – амерыканскі драматычны серыял з сямі эпізодаў, які выйшаў у 2020 годзе. Яго знялі паводле рамана Уолтэра Тэвіса. Серыял заваяваў прызнанне за якасную пастаноўку, а таксама адрадзіў цікавасць да шахмат. Зацікаўленасць да інтэлектуальнай гульні скаланула амерыканскі рынак. Майстар спорту па шахматах з Маладзечна Віталь Качаткоў падзяліўся ўражаннямі ад карціны.**

Галоўная гераіня Элізабэт Харман – гэта правобраз амерыканскага гросмайстра і адзінаццатага чэмпіёна свету па шахматах Роберта Фішара. Кіно цалкам мастацкае, але над усімі шахматнымі сцэнамі сцэнарыстам працаваў 13-ы чэмпіён свету па шахматах, васьміразовы пераможца Сусветных шахматных алімпіяд Гары Каспараў.

З пункту гледжання эмацыйнай падачы матэрыялу стаўлю серыялу 9, шахматны складнік – таксама на 9. Пры скрупулёзным позірку шахматны майстар заўважыць невялічкія недахопы, але агулам серыял выдатны.

**Гераіня не выглядае цацачна, няма перабору з вобразам. Ёсць тэма злоўжывання алкаголем і наркатычнымі рэчывамі, а таксама пераадольвання розных складанасцяў. І вельмі шмат рамантыкі.**

Напэўна, менавіта з-за рамантыкі серыял атрымаў такі поспех у англамоўных краінах. Але разам з тым з-за гэтай перабольшанай рамантыкі «Ход каралевы» не стаў настолькі ж папулярным у постсавецкай прасторы. Мяркую, прычына ў тым, што ну, не верыць наш народ у рамантыку. Дакладней, у паспяховасць і лёгкадаступнасць шахматных поспехаў.

**Напрыканцы мінулага года запатрабаванасць у шахматах у Амерыцы ўзрасла так, што не паспявалі загружаць пасылкі. А ў нас з гэтай справай цішыня.**

На сэрвісе бясплатных аб'яў я прапаную паслугі па навучанні шахматам. Старыя канапы і іншая лухта ў шмат разоў больш запатрабаваныя, чым інтэлектуальныя навыкі.

На жаль, беларусы цяпер захраслі ў іншым і ім не да гэтага. І сітуацыя «не да гэтага» працягваецца з году ў год і нічому не вучыць.

**Віталь КАЧАТКОЎ,**
**шахматны майстар,**
**спецыяльна**
**для «Рэгіянальнай газеты».**



## 8 канал

ВОСЬМОЙ

### ПОНЕДЕЛЬНИК, 22 МАРТА

**7.00, 15.50, 18.45, 21.00, 1.00** «Погода» + «Эрана».
**7.05** «Мульт-парад». «Чип и Дейл спешат на помощь».
**7.30, 15.55, 20.45** «Приколы 13-й школы».
**7.35** Т/с **«БЫВАЕТ И ХУЖЕ».**
**8.20, 19.45** Т/с **«ВАША ЧЕСТЬ».**
**9.15, 18.50** Т/с **«ОТТЕПЕЛЬ».**
**10.10** Д/ф «БОЛЬШОЙ СКАЧОК». ВИТАМИН Д».
**10.50** Х/ф **«ПРОЛЕТАЯ НАД ГНЕЗДОМ КУКУШКИ».**
**13.05** Т/с **«ЛЕЙТЕНАНТ КОЛОМБО».**
**14.20** Т/с **«ЧИСТО АНГЛИЙСКИЕ УБИЙСТВА».**
**16.00** «Мульт-парад».
**17.00** «Защитник».
**20.50** «Вечарніца».
**21.05** Х/ф **«ТРИ ДНЯ НА УБИЙСТВО».**
**23.15** Х/ф **«ФОКУС».**

### ВТОРНИК, 23 МАРТА

**7.00, 15.30, 18.45, 21.00, 1.10** «Погода» + «Эрана».
**7.05** «Мульт-парад». «Чип и Дейл спешат на помощь».
**7.30, 15.35, 20.45** «Приколы 13-й школы».
**7.35** Т/с **«БЫВАЕТ И ХУЖЕ».**
**8.20, 19.45** Т/с **«ВАША ЧЕСТЬ».**
**9.15, 18.50** Т/с **«ОТТЕПЕЛЬ».**
**10.10** «Готовь как шеф».
**10.30** Х/ф **«ТРИ ДНЯ НА УБИЙСТВО».**
**12.45** Т/с **«ЛЕЙТЕНАНТ КОЛОМБО».**
**14.00** Т/с **«ЧИСТО АНГЛИЙСКИЕ УБИЙСТВА».**
**15.40** «Мульт-парад».
**16.25** «Дети о еде».
**16.45** «Защитник».
**20.50** «Вечарніца».
**21.05** Х/ф **«ЛЕГЕНДА «.**
**23.20** Х/ф **«КОМА».**

### СРЕДА, 24 МАРТА

**7.00, 15.40, 21.00, 1.30** «Погода» + «Эрана».
**7.05** «Мульт-парад». «Чип и Дейл спешат на помощь».
**7.30, 15.45, 20.45** «Приколы 13-й школы».
**7.35** Т/с **«БЫВАЕТ И ХУЖЕ».**
**8.25, 19.45** Т/с **«ВАША ЧЕСТЬ».**
**9.20, 18.45** Т/с **«ОТТЕПЕЛЬ».**
**10.15** «Дети о еде».
**10.35** Х/ф **«ЛЕГЕНДА №17».**
**12.50** Т/с **«ЛЕЙТЕНАНТ КОЛОМБО».**
**14.05** Т/с **«ЧИСТО АНГЛИЙСКИЕ УБИЙСТВА».**
**15.50** «Мульт-парад».
**17.05** «Защитник».
**18.40** «Погода»+ «Эрана».
**20.50** «Вечарніца».
**21.05** Х/ф **«ИСЧЕЗНУВШАЯ».**
**23.30** Х/ф **«МИССИЯ «СЕРЕНИТИ».**

### ЧЕТВЕРГ, 25 МАРТА

**7.00, 15.50, 18.30, 21.00, 0.45** «Погода» + «Эрана».
**7.05** «Мульт-парад». «Чип и Дейл спешат на помощь».
**7.30, 15.55, 20.45** «Приколы 13-й школы».
**7.35** Т/с **«БЫВАЕТ И ХУЖЕ».**
**8.20, 19.50** Т/с **«ВАША ЧЕСТЬ».**
**9.20, 18.35** Т/с **«ОТТЕПЕЛЬ».**
**10.15** Д/ф «ПРЕМУДРОСТИ ЛЕСНОЙ ЖИЗНИ».
**10.30** Х/ф **«ИСЧЕЗНУВШАЯ».**
**13.00** Т/с **«ЛЕЙТЕНАНТ КОЛОМБО».**
**14.15** Т/с **«ЧИСТО АНГЛИЙСКИЕ УБИЙСТВА».**
**16.00** «Мульт-парад».
**16.50** «Защитник».
**19.30** «Фешн is my профешн».
**20.50** «Вечарніца».
**21.05** Х/ф **«ЧУЖИЕ ПРОТИВ ХИЩНИКА. РЕКВИЕМ».**
**22.45** Х/ф **«ИМИТАТОР».**

### ПЯТНИЦА, 26 МАРТА

**7.00, 15.50, 19.40, 21.00** «Погода» + «Эрана».
**7.05** «Мульт-парад». «Чип и Дейл спешат на помощь».
**7.30, 15.55, 20.45** «Приколы 13-й школы».
**7.35** Т/с **«БЫВАЕТ И ХУЖЕ».**
**8.20, 19.45** Т/с **«ВАША ЧЕСТЬ».**
**9.10, 18.40** Т/с **«ОТТЕПЕЛЬ».**
**10.05** Д/ф «СЧАСТЛИВЫЕ ЛЮДИ».
**11.00** Х/ф **«ЧУЖИЕ ПРОТИВ ХИЩНИКА. РЕКВИЕМ».**
**12.40** Т/с **«ЛЕЙТЕНАНТ КОЛОМБО».**
**14.15** Т/с **«ЧИСТО АНГЛИЙСКИЕ УБИЙСТВА».**
**16.00** «Мульт-парад».
**16.45** «Готовь как шеф».
**17.00** «Защитник».
**20.50** «Вечарніца».
**21.05** Х/ф **«ЧУЖОЙ. ЗАВЕТ».**
**23.30** Х/ф **«ЧУЖОЙ».**
**1.25** «Погода»+ «Эрана».

### СУББОТА, 27 МАРТА

**7.00, 16.25, 19.25, 21.25** «Погода» + «Эрана».
**7.05** «Мульт-парад».
**7.40** «Приколы 13-й школы».
**7.45** Х/ф **«ЖЕНИТЬБА БАЛЬЗАМИНОВА».**
**9.10** «Дети о еде».
**9.35** Х/ф **«НЕСЛУЧАЙНАЯ ВСТРЕЧА».**
**16.30** «Смотрим всей семьей». «Тачки».
**18.30** Детское реалити «Kashpey show».
**19.30** Х/ф **«ОПАСНЫЙ КРУИЗ».**
**21.00** «Вечарніца».
**21.10** «Фешн Is my профешн».
**21.30** Х/ф **«ТРИ ДНЯ КОНДОРА».**
**23.30** Х/ф **«РОБОТ ПО ИМЕНИ ЧАППИ».**
**1.30** «Погода».

### ВОСКРЕСЕНЬЕ, 28 МАРТА

**7.00, 1.15** «Погода».
**7.05** Мультфильмы «Мулан».
**8.30** «Приколы 13-й школы».
**8.35** Х/ф **«ДЕВУШКА МОЕЙ МЕЧТЫ».**
**10.15** «Готовь как шеф».
**10.30** Х/ф **«ЖЕСТОКИЙ РОМАНС».**
**12.50, 17.10, 20.00, 21.00** «Погода» + «Эрана».
**12.55** «Смотрим всей семьей». «Последний богатырь».
**15.00** «Смотрим всей семьей». «Тачки».
**16.50** «Ароматы кантонской кухни».
**17.15** Х/ф **«МИСС МАРПЛ. НЕМЕЗИДА».**
**19.15** «Суперлото».
**20.05** Т/с **«ПРОЕКТ «СИНЯЯ КНИГА».**
**20.50** «Вечарніца».
**21.10** Х/ф **«ИМЯ ЕМУ «СМЕРТЬ».**
**23.05** Х/ф **«НАЕМНЫЕ УБИЙЦЫ».**

## МКТВ

### ПОНЕДЕЛЬНИК, 22 МАРТА

**6.30** Х/ф **«ШЕРЛОК ХОЛМС. ИГРА ТЕНЕЙ».**
**8.40** Х/ф **«СИНДБАД. ПИРАТЫ СЕМИ ШТОРМОВ».**
**10.00** Х/ф **«КОПЫ В ГЛУБОКОМ ЗАПАСЕ».**
**11.45, 22.15** Мажорный лад.
**12.00, 15.00, 17.00** Экспресс-новости.
**12.05** Х/ф **«ИЗ 13 В 30».**
**13.40** Мультфильм «Иван Царевич и Серый Волк 2».
**15.05** Х/ф **«ГРИНЧ».**
**17.10** Х/ф **«ХОЛОДНОЕ СЕРДЦЕ 2».**
**19.00, 20.00, 22.00** Новости: время местное.
**19.15** Мая Радзіма.
**20.15** Х/ф **«МОШЕННИКИ».**

### ВТОРНИК, 23 МАРТА

**6.30** Песня на завтрак.
**7.00, 8.00, 19.00, 20.00, 22.00** Новости: время местное.
**7.15, 14.30, 22.15** Мажорный лад.
**8.15** Х/ф **«КОРСИАНЕЦ».**
**10.00** Х/ф **«ЗЕЛЕНЫЙ ШЕРШЕНЬ».**
**12.00, 15.00** Экспресс-новости.
**12.05** Х/ф **«ЛЕГЕНДА ЗОРО».**
**15.05** Х/ф **«О ЧЕМ МОЛЧАТ ДЕВУШКИ».**
**16.30** Х/ф **«НОВЫЕ ПРИКЛЮЧЕНИЯ АЛАДДИНА».**
**19.15** Будьте здоровы.
**20.15** Х/ф **«НАЧАЛО ВРЕМЕН».**

### СРЕДА, 24 МАРТА

**6.30** Песня на завтрак.
**7.00, 8.00, 19.00, 20.00, 22.00** Новости: время местное.
**7.15** Будьте здоровы.
**8.15** Х/ф **«МОЙ ШПИОН».**
**10.30** Х/ф **«ЕЛКИ 5».**
**12.00, 15.00, 17.00** Экспресс-новости.
**12.05** Х/ф **«ЗАМУЖ НА 2 ДНЯ».**
**13.50** Х/ф **«ИВАН ЦАРЕВИЧ И СЕРЫЙ ВОЛК 2».**
**15.05** Х/ф **«ДЖУМАНДЖИ. ЗОВ ДЖУНГЛЕЙ».**
**17.05** Легок на помине.
**19.15** Мастерство и вдохновение.
**20.30** Музыкальная открытка.
**22.15** Мажорный лад.

### ЧЕТВЕРГ, 25 МАРТА

**6.30, 7.15** Песня на завтрак.
**7.00, 8.00, 19.00, 20.00, 22.00** Новости: время местное.
**8.15** Х/ф **«УДИВИТЕЛЬНОЕ ПУТЕШЕСТВИЕ ДОКТОРА ДУЛИТТЛА».**
**10.00** Х/ф **«ОДНОЙ ЛЕВОЙ».**
**12.00, 15.00, 17.00** Экспресс-новости.
**12.05** Шанхайский полдень.
**15.10** Х/ф **«КОРОЛЕВСТВО ПОЛНОЙ ЛУНЫ».**
**19.20** Будьте здоровы.
**20.15** Х/ф **«ОГНИ БОЛЬШОЙ ДЕРЕВНИ».**
**22.15** Мажорный лад.

### ПЯТНИЦА, 26 МАРТА

**6.30** Песня на завтрак.
**7.00, 8.00, 19.00, 20.00, 22.00** Новости: время местное.
**7.15** Мая Радзіма.
**8.15** Х/ф **«ОДИН ВДОХ».**
**10.00** Х/ф **«ШОПО-КОП».**
**12.00, 15.00, 17.00** Экспресс-новости.
**12.05** Х/ф **«АГЕНТ 117-МИССИЯ В РИО».**
**13.45** Х/ф **«ЧЕТВЕРО ПРОТИВ БАНКА».**
**15.05** Х/ф **«МАДАМ ПАРФЮМЕР».**
**17.10** Х/ф **«ВПЕРЕД».**
**19.20** Будьте здоровы.
**20.20** Х/ф **«ТАКИЕ РАЗНЫЕ БЛИЗНЕЦЫ».**
**22.20** Мажорный лад.

### СУББОТА, 27 МАРТА

**6.30, 8.40** Песня на завтрак.
**7.00, 8.00, 19.00, 20.00, 22.00** Новости: время местное.
**7.30** Рядом со звездами.
**13.00** Х/ф **«ТОЛСТЯК ПРОТИВ ВСЕХ».**
**14.50** Х/ф **«ЗОВ ПРЕДКОВ».**
**16.50** Х/ф **«ОДИН ВДОХ».**
**19.30** «Мнения и факты».
**20.30** Музыкальная открытка.
**22.20** Мажорный лад.

### ВОСКРЕСЕНЬЕ, 28 МАРТА

**6.30** Х/ф **«ТАКСИ».**
**8.00** Х/ф **«СУПЕРМОЗГ».**
**10.00** Х/ф **«АНАЛИЗИРУЙ ЭТО».**
**11.50** Х/ф **«ТОЛСТЯК НА РИНГЕ».**
**13.20** Х/ф **«АГЕНТ ЛЕВ».**
**15.00** Х/ф **«РОЖДЕСТВО НА ДВОИХ».**
**16.35** Х/ф **«МАДАМ ПАРФЮМЕР».**
**18.25** Х/ф **«МОНАШКИ В БЕГАХ».**
**19.35** Х/ф **«ВСЁ О МУЖЧИНАХ».**
**21.35** Х/ф **«ПРИВЕТ, БИЛЛ!».**

## Беларусь 1

**6.25** Х/ф **«РЫЖИК».**

**8.20** Клуб редакторов.

**9.00, 12.00, 15.00, 19.00** Новости.

**9.10** «Арсенал». Программа об армии.

**9.40** Истории спасения.

**10.10** «Зона Х». Итоги недели.

**10.40** Маршрут построен.

**11.20, 12.35** Х/ф **«ДОМИК НА СЧАСТЬЕ 2».**

**12.10** Новости. Центральный регион.

**13.35** «Я знаю». Шоу-викторина для всей семьи.

**15.15** Дай пять.

**15.30** Вокруг планеты.

**16.15** «Повод есть».

**16.45, 19.10** Х/ф **«ИСЦЕЛЕНИЕ».**

**20.35** Навіны надвор'я.

**21.00** Главный эфир.

**22.05** Х/ф **«ЛЮБИТЬ И ВЕРИТЬ».**

## Беларусь 2

**6.00** «Включайся. Лучшее за неделю». Утреннее шоу.

**8.00, 19.40** Телебарометр.

**8.05** Т/с **«КЛОН».**

**10.00** Т/с **«ТИМОН И ПУМБА».**

**10.20** М/с «Маша и Медведь».

**10.35** «Три первых свидания». Реалити-шоу.

**11.30** Х/ф **«СОКРОВИЩЕ НАЦИИ. КНИГА ТАЙН».**

**13.35** «На ножах». Кулинарное реалити-шоу.

**14.35** «Папа попал». Реалити-шоу.

**17.05** «Башня». Интеллектуально-развлекательное шоу.

**17.55** Х/ф **«АСТРАЛ 3».**

**20.10** «Орел и Решка. Морской сезон». Трэвел-шоу.

**21.10** Спортлото 5 из 36, КЕНО.

**21.15** Х/ф **«БАР «ГАДКИЙ КОЙОТ».**

**23.10** «Любовь на выживание». Романтическое реалити-шоу.

## Беларусь 3

**7.30** «Святыні Беларусі».

**8.00, 14.35** Навіны культуры.

**8.20** «Чалавек-амфібія». Мастацкі фільм.

**10.00** «Наперад у мінулае».

**10.25** «Беларуская кухня». Грыбы лісіцы.

**10.55** «Нацыянальны хіт-парад».

**11.50** «Інспектар-разява». Мастацкі фільм.

**13.30** «Народны майстар». Валянціна Савіцкая (дэкаратыўна-прыкладное мастацтва).

**13.55** «Сваімі словамі». Тэлевіктарына.

**14.55** «Беларусь як песня». Якаў Навуменка.

**15.20** «Камандзір шчаслівага «Шчупака». Мастацкі фільм.

**17.00** «Жывая спадчына».

**17.30** «Я хачу гэта ўбачыць!».

**17.55** «Старшыня». Мастацкі фільм.

**20.40** «Калыханка».

**21.05** «Мачаха». Мастацкі фільм (СТ).

**22.35** «Сучасны тэатр». Балет Нацыянальнага акадэмічнага Вялікага тэатра оперы і балета Рэспублікі Беларусь «Стварэнне свету».

**22.50** А.Пятроў. «Стварэнне свету». Балет Нацыянальнага акадэмічнага Вялікага тэатра оперы і балета Рэспублікі Беларусь.

## ОНТ

**7.00, 9.00, 16.00** Наши новости.

**7.10** «Здоровье».

**8.10** «Жанна Бадоева в проекте-путешествии «Жизнь других».

**9.10** ОНТ представляет: «Метеогид».

**9.30** «Теория заговора».

**10.30** ОНТ представляет: «Народный повар».

**11.50** «Видели видео?».

**14.00** Т/с **«СВАДЬБЫ И РАЗВОДЫ».**

**16.20** К 70-летию Алексея Булдакова. «Ну вы, блин, даете!».

**17.30** «Точь-в-точь». Новый сезон.

**20.00** «Контуры».

**21.20** «Что? Где? Когда?» Весенняя серия игр.

**22.35** ОНТ представляет: «Спортклуб».

**22.55** Х/ф **«ВОРОШИЛОВСКИЙ СТРЕЛОК».**

## СТВ

**6.30, 23.45** «Секретные территории».

**9.00** «Минтранс».

**10.00** «Добро пожаловаться».

**10.30** «Большой город».

**11.00** «Неизвестная история».

**11.45** «Знаете ли вы что?».

**12.35, 13.40, 16.40** Т/с **«БРИГАДА».**

**13.30, 16.30** Новости «24 часа».

**19.30** «Неделя».

**21.05** «Засекреченные списки».

## Мир

**5.00** Мультфильмы.

**5.55** Х/ф **«Я ШАГАЮ ПО МОСКВЕ».**

**7.15** «Секретные материалы». Песни под пулями.

**7.50** Х/ф **«ВИЙ».**

**9.25** «ФазендаЛайф».

**10.00, 16.00** Новости.

**10.10, 16.15, 19.30, 1.00** Т/с **«ДЕРЕВЕНСКИЙ РОМАН».**

**18.30, 0.00** Итоговая программа «Вместе».

**3.40** «Наше кино. История большой любви».

**4.05** Х/ф **«ЦИРК».**

## НТВ-Беларусь

**6.00** «Астропрогноз».

**6.10** «Тело человека».

**6.45** Беларусы.

**7.20** «50 рецептов первого».

**8.00, 10.00, 16.00** «Сегодня».

**8.20** «24 вопроса».

**8.45** «Города Беларуси».

**9.20** «Я хочу это увидеть!».

**10.20** «Квартирный вопрос. Ву».

**10.55** «Первая передача».

**11.25** «Чудо техники».

**12.10** «Дачный ответ».

**13.10** «НашПотребНадзор».

**14.05** Х/ф **«ДЕРЖИСЬ ЗА ОБЛАКА».**

**16.20** «Следствие вели…».

**18.00** «Новые русские сенсации».

**19.00** «Итоги недели» с Ирадой Зейналовой.

**20.05** Ты не поверишь!

**21.15** Х/ф **«ДАЛЬНОБОЙЩИК».**

**23.00** «Понять и обезвредить». Авторский проект Елены Дамиевой.

**23.35** «Звезды сошлись».

## Беларусь РТР

**7.05** Т/с **«ОЙ, МА-МОЧКИ!..».**

**11.00** ВЕСТИ.

**11.30** Х/ф **«ПРАВО НА ЛЮБОВЬ».**

**15.00** ПРЕМЬЕРА. «Парад юмора».

**16.30** Х/ф **«ЛЮБОВЬ ПОД МИКРОСКОПОМ».**

**20.00** ВЕСТИ НЕДЕЛИ.

**21.05** «В людях».

**21.45** МОСКВА. КРЕМЛЬ. ПУТИН.

**22.25** «Воскресный вечер с Владимиром Соловьевым».

# кіно і спорт

### TV1000

**5.00, 0.35** Дитя человеческое. **6.50, 2.40** Дюна. **9.15** Ромео и Джульетта. **11.25** Сумерки. Сага. Рассвет: 1 ч. **13.25** Сумерки. Сага. Рассвет: 2 ч. **15.20** Тепло наших тел. **17.05** Игра в прятки. **19.00** Ключ от всех дверей. **20.50** Другие. **22.45** Тёмная вода.

### TV1000 ACTION

**5.10** Чёрный ястреб. **7.45** Каратель. **9.45** Миссия невыполнима: Протокол Фантом. **12.05** Миссия невыполнима: Племя изгоев. **14.25** Миссия невыполнима: Последствия. **17.00** Невидимка. **19.00** Потрошители. **20.55** Репродукция. **22.45** Кто там. **0.25** Джек Ричер. **2.40** Джек Ричер 2: Никогда не возвращайся.

### TV1000 РУССКОЕ КИНО

**5.30** Давай разведёмся! **7.15** Мой парень – Ангел. **9.05** Неуловимые. **10.40** Неуловимые: Последний герой. **12.00** Неуловимые: Бангкок. **13.35** Неуловимые: Джекпот. **15.00** Любовь с ограничениями. **16.55** Лёд. **19.00** Лёд 2. **21.30** Красотка в ударе. **23.30** Любовницы. **1.20** На крючке! **3.25** Горько!

### ТВ3

**6.00, 9.30** Мультфильмы. **9.00** «Новый день». **10.15** Х/ф **«АСТРАЛ: ПОСЛЕДНИЙ КЛЮЧ». 12.30** Х/ф **«ГОДЗИЛЛА». 15.15** Х/ф **«КИНГ КОНГ». 19.00** Х/ф **«ЧЕЛЮСТИ». 20.45** Х/ф **«ПИРАНЬИ». 22.30** «Последний герой. Чемпионы против новичков». **0.00** Х/ф **«АСТРАЛ: ГЛАВА 3». 1.45** Х/ф **«АНАКОНДА». 3.15** «Дневник экстрасенса с Татьяной Лариной». **4.00** «ТВ-3 ведет расследование». **4.45** «Тайные знаки». **5.30** «Охотники за привидениями. Битва за Москву».

### ФЕНИКС

**8.00, 9.00, 10.00, 11.00, 16.00, 17.00, 18.00, 19.00** «Две судьбы». **12.00, 20.00, 4.00** «Родительское право». **13.00, 21.00, 5.00** «Ермоловы». **14.00, 22.00** «Инквизитор». **15.00, 23.00, 7.00** «Мой генерал». **0.00, 1.00** «Татьянин день». **2.00, 3.00** «Неравный брак». **6.00** «На глубине».

### КИНОКОМЕДИЯ

**1.05** Х/ф **«(НЕ)ЖДАННЫЙ ПРИНЦ». 2.40** Х/ф **«ЛЮБИТ НЕ ЛЮБИТ». 4.40** Х/ф **«СКАМЕЙКА ЗАПАСНЫХ». 6.10** Х/ф **«ЭТОТ НЕЛОВКИЙ МОМЕНТ». 8.05** Х/ф **«СМЕРТЬ НА ПОХОРОНАХ». 9.45** Х/ф **«Я ХУДЕЮ». 11.40** Х/ф **«ЛЕГКОЕ ПОВЕДЕНИЕ». 13.30** Х/ф **«СЕМЕЙНОЕ ОГРАБЛЕНИЕ». 15.05** Х/ф **«АНАЛИЗИРУЙ ЭТО». 17.00** Х/ф **«КРОВЬЮ И ПОТОМ: АНАБОЛИКИ». 19.30** Х/ф **«ВАСАБИ». 21.15** Х/ф **«ЭВОЛЮЦИЯ». 23.05** Х/ф **«ЗАЖГИ ЭТИМ ЛЕТОМ».**

### КИНОСЕРИЯ

**0.00** Т/с **«ПОД ПРИКРЫТИЕМ». 1.05, 2.05, 3.05, 4.40, 5.40, 6.40, 7.45, 8.45, 9.45, 10.45** Т/с **«ПАЛАЧ». 11.40** Т/с **«АННА». 13.55, 14.55, 15.55, 17.00, 18.00, 19.00, 20.00, 21.05** Т/с **«ПАУК». 22.05, 23.00, 23.55** Т/с **«ЧИСТО АНГЛИЙСКИЕ УБИЙСТВА».**

### ВТВ

**6.05** «ДУРАКИ И ДОРОГИ». **7.25** Шоу «УТРО С ЮМОРОМ». **9.25, 16.25** «КВН. ПА-НАШАМУ». **10.00, 2.20** Make-over шоу «РОГОВ В ДЕЛЕ». **11.00** Шоу «МИША ПОРТИТ ВСЁ». **12.00** Реалити-шоу «НАШ РЕМОНТ». **12.40** Х/ф **«ОТВАЖНАЯ ЛИФИ». 14.30** Т/с **«КОРНИ». 17.00** Х/ф **«ВИКИНГИ». 19.00** Х/ф **«МУЖЧИНА НАРАСХВАТ». 21.00** Шоу «СТЕНДАП АНДЕГРАУНД». **22.00, 1.05** Юмористическое шоу «УРАЛЬСКИЕ ПЕЛЬМЕНИ». **23.30** Travel-шоу «СЕЛАПОЛЕТЕЛА». **0.15** «КИНО В ДЕТАЛЯХ». **1.55** «ПРОСТО КУХНЯ». **3.10** Скетч-шоу «ДАЁШЬ МОЛОДЁЖЬ». **4.45** Скетч-шоу «6 КАДРОВ».

### БЕЛАРУСЬ 5

**6.30** Теннис. WTA. Майами. **8.25** Футбол. Чемпионат Европы (U-21). Испания – Италия. **10.15** Игры «на вырост». **10.45** Фигурное катание. Чемпионат мира. Стокгольм. Танцы на льду. Произвольная программа. **12.50, 19.25** Художественная гимнастика. Кубок мира. София. **15.00** Баскетбол. Единая лига ВТБ. Химки (Московская обл.) – Цмокі-Мінск. **16.50** Спорт-центр. **21.35** Футбол. Квалификация к ЧМ-2022. Болгария – Италия. В перерыве Спорт-центр. **23.35** Итоги недели. **0.20** Пит-стоп.

### EUROSPORT

**0.00, 2.30, 5.00, 9.30, 12.45** Велоспорт. «Вуэльта Каталонии». 6-й этап. **1.30, 3.30, 8.00, 10.30** Прыжки на лыжах с трамплина. Кубок мира. Планица. HS 240. Команды. **4.05** Велоспорт. «Вуэльта Каталонии». 5-й этап. **6.00** Фристайл. Кубок мира. Силваплана. Слоупстайл. **7.00, 22.00** Прыжки на лыжах с трамплина. Кубок мира. Планица. HS 240. **10.50** Прыжки на лыжах с трамплина. Кубок мира. Планица. HS 240. Прямая трансляция. **13.30** Велоспорт. «Вуэльта Каталонии». 7-й этап. Прямая трансляция. **15.20** Велоспорт. Мировой тур. Прямая трансляция. **18.15, 20.45, 23.00** Велоспорт. Мировой тур. **19.45** Велоспорт. «Вуэльта Каталонии». 7-й этап.

# хобі і адпачынак

### ДРАЙВ

**6.00** Проверка на дороге. **6.30, 13.50, 23.25, 1.10** Вторичка. **6.45, 17.45** Трасса А2. **7.30, 10.15, 13.00, 16.30, 18.35, 23.05, 1.25, 3.30** Итоговые новости. **7.45** Вечер с Пикуленко. **8.30** Резьба по стали. **9.00** Испытание на прочность. **9.40** Все включено. Эксклюзив р. **10.00** Все включено. Эксклюзив. **10.35** Кузовной ремонт. **11.10** Автолайф. **11.30, 19.25, 22.30, 3.05** Возвращение легенды. **12.05, 19.55, 23.40, 3.50** Стальные парни. **13.15, 13.35, 0.30, 0.50** Тест с дядей Ваней. **14.10, 14.40, 18.55, 1.40, 2.05** Тест на «Драйве». **15.15, 20.45, 4.35** Эконом-тест. **15.35, 21.05, 4.50** Это Родина твоя. **16.05, 21.35** За рулем каждый день. **16.45, 22.00** Сделано в России. **17.15, 2.35** Сити-тестер. **5.15, 5.30** Аварийная ситуация. **5.45** Авто: вторые руки.

### EXPLORE

**6.10, 7.00, 7.50, 8.45** Речные чудовища. **9.35, 22.15** Чудовищный карп. **10.25, 21.30** Ледовые викинги. **11.10, 23.05** Снос в Австралии. **12.00, 12.45, 13.35, 14.20, 15.10, 15.55, 16.45, 17.30, 18.20, 19.05, 19.55** Австралийские золотоискатели. **20.40, 21.05** Нефритовая лихорадка. **23.55, 0.40** Драндулеты на продажу. **1.30, 2.15, 3.05, 3.50, 4.40** Австралийские охотники на лобстеров. **5.25** Рыбалка со звездами.

### HISTORY

**6.00** Невероятные изобретения. **6.25** Расшифрованные сокровища. **7.15** Лондон: 2000 лет истории. **8.00, 9.00** Древние небеса. **9.55, 17.05** Мегаполис: секреты древнего мира. **10.55, 11.45** Вулканы: разрушение и сотворение. **12.30, 0.45** Разгадка тайны пирамид. **13.25, 1.35** Тайны мертвых. **14.20** Тайная история рыцарей Храма. **15.20** Реформация: священная война в Европе. **16.15** Генрих VIII: человек, монарх, чудовище. **18.00** Вечные Помпеи. **19.00, 19.55** Последние часы Помпеев: новые загадки. **20.50, 21.35** Титаник: истории из глубины. **22.25** Война во Вьетнаме. **23.15, 0.00** Музейные тайны. **2.35, 3.25** Карты убийства. **4.10, 4.50** Запретная история. **5.35** Родовые проклятья.

### NATURE

**6.00, 7.00** Операция «Айсберг». **7.55, 8.50** Когда киты ходили по суше. **9.50** Расцвет млекопитающих. **10.45** Вскрытие мамонта. **11.35, 12.25, 13.15, 14.10** Природа Америки: времена года. **15.00, 18.30** Волшебные горы – в сердце Германии. **15.55, 16.40** Неукротимая Румыния. **17.35** Муравьиная гора Дэвида Аттенборо. **19.25, 20.15, 21.10, 22.00, 22.50** Речные чудовища. **23.45** Невероятные встречи с животными. **0.35** Рассказы о бурях. **1.20, 3.25, 4.20, 5.10** Выживание в дикой природе. **2.10** В зоопарке Таронга. **3.00** Уличный ветеринар.

### NATIONAL GEOGRAPHIC

**6.00** Фабрика еды. **6.20, 2.00, 2.45** Авто – SOS. **7.05** Научные глупости. **7.35, 7.55** Игры разума. **8.25, 9.15** Дикий тунец: Север против юга 5. **10.05, 10.55** Техасский улов. **11.45, 12.35** Тайная история. **13.25, 14.15, 15.10** Расследования авиакатастроф. **16.00, 16.50, 17.40** Остров бунтарей. **18.30, 19.20, 20.10, 21.50** Затерянные сокровища Майя. **21.00** Затерянные города с Альбертом Лином. **22.40** Потерянный мир Майя. **23.30** Затерянные сокровища змеиных царей майя. **0.25, 0.50, 1.15, 1.35** Горячие границы: Латинская Америка. **3.30, 4.20** Осушить океан. **5.05** Международный аэропорт Дубай.

### ОХОТА И РЫБАЛКА

**6.00, 14.00, 22.05, 2.00** Рыболовная Россия. **6.30, 8.40, 10.35, 12.30, 14.30, 22.35, 0.35, 2.30, 4.40** Охота в Новом Свете. **6.50** Давай зарубимся! **7.10, 11.00, 14.55, 19.00, 23.00, 3.15** Безграничная рыбалка. **7.35, 23.35, 3.45** Один день из жизни. **8.10, 15.55, 4.10** Рыбалка 360. **9.05, 12.55, 16.55, 1.00, 5.00** Сомы Европы. **9.35, 13.30, 17.30, 21.35, 1.35, 5.35** Зима. Удочка. Поклевка. **10.05, 18.00** Рыбалка в России. **11.30, 15.25, 19.30** Мир рыболова. **12.00, 20.00** Рыбалка сегодня XL. **16.25, 20.30** Рыбалка с Нормундом Грабовскисом. **18.30** Охота в Удмуртии. **21.00** На рыбалку с охотой. **0.05** Охота и рыбалка в. **2.55** Нож-помощник.

### УСАДЬБА

**6.00, 10.10, 14.10, 18.10, 22.10, 2.20** Альтернативный сад. **6.35, 18.40, 22.40, 2.50** Доктор смузи. **6.50, 11.00, 15.00, 19.00, 23.00, 3.05** Постное меню. **7.00, 11.15, 15.15, 19.15, 23.15, 3.25** Секреты стиля. **7.30, 11.45, 15.45, 19.45, 23.45, 3.50** Школа ландшафтного дизайна. **8.00, 16.15, 20.15, 0.15, 4.20** Лучки-пучки. **8.20, 12.35, 0.35** Дом, милый дом! **8.35, 12.50, 20.50, 0.50, 4.50** 50 оттенков желе. **8.50, 12.15** Огород круглый год. **9.20** Травовед. **9.40, 13.40, 17.35, 1.35, 5.35** Хозяин. **10.40** Чай вдвоем. **13.05, 1.10** Дети на даче. **14.40, 16.50** Огород круглый год. **16.35, 20.30, 4.35** Сельсовет. **17.05, 21.05, 5.05** Умный дом. Новейшие технологии. **21.35** Мегабанщики. **2.05** Кисельные берега.

# Як склаўся лёс першага кіраўніка Беларускай Народнай Рэспублікі

**25 сакавіка 1918 года была абвешчаная незалежнасць Беларускай Народнай Рэспублікі. Гэта адбылося падчас кіраўніцтва БНР яе першым старшынёй Янкам Серадой. «Рэгіянальная газета» расказвае гісторыю Серады – першага кіраўніка, які застаўся на радзіме, быў асуджаны і таямніча знік пасля вызвалення.**


Фота wikimedia.org

Народны сакратарыят БНР. Сядзяць злева направа: А. Бурбіс, Я. Серада, І. Воронка, В. Захарка. Стаяць: А. Смоліч, П. Крачэўскі, К. Езавітаў, А. Аўсянік, Л. Заяц.

### Перадгісторыя

Узімку 1917 года ў Мінску прайшоў Першы Усебеларускі з'езд. Дэлегаты абмяркоўвалі стварэнне незалежнай беларускай дзяржавы, але памкненні завяршыліся разгонам з'езда бальшавікамі. Пасля дэлегаты Рады Усебеларускага з'езда на таемным сходзе пад аховай рабочых у чыгуначным дэпо вылучалі са свайго складу мабільны кіраўнічы орган – Выканаўчы камітэт.

Напрыканцы лютага 1918 года германскія войскі займаюць значную тэрыторыю Беларусі. Выканкам Рады БНР выдае Першую Устаўную грамату, у якой звяртаецца да беларускага народа і абвяшчае сябе ўладай.

Тым не менш, у гэты час адбываюцца перамовы паміж Савецкай Расіяй і краінамі Траістага саюза. Ад Рады БНР у мірных перамовах удзельнічаюць дэлегаты, аднак іх меркаванні не былі ўлічаныя ў падпісанні.

3 сакавіка 1918 года ў Брэсце падпісваюць мірнае пагадненне, якое фармальна завяршала ўдзел Расіі ў Першай сусветнай вайне. Паводле дамовы, землі, што ляжалі на захад ад лініі Дзвінск-Свянцяны-Пружаны, передаваліся Германіі і Аўстра-Венгрыі.

Рэакцыя на такую дамову прыйшла праз некалькі дзён. 9 сакавіка 1918 года ў адказ на дамову Выканкам Усебеларускага з'езда прыняў Другую Устаўную грамату. У ёй гаварылася аб утварэнні БНР у межах рассялення і колькаснай перавагі беларусаў. Заканадаўчую ўладу атрымала Рада БНР, старшынёй стаў **Янка Серада**.

### Прайшоў дзве вайны, па спецыяльнасці – ветэрынар

Янка Мікітавіч Серада нарадзіўся ў сям'і святара 1 мая 1879 года ў Задзвеі Навагрудскага павета. У 1903 годзе скончыў Варшаўскі ветэрынарны інстытут. Невядома, ці паспеў ён папрацаваць ветэрынарам, але наступныя гады правеў на фронце. У 1905-1906 гадах служыў на Маньчжурскім фронце падчас руска-японскай вайны.

Пасля вайны вярнуўся ў Беларусь працаваць па спецыяльнасці. У 1907-1911 гадах працаваў ветэрынарам у Мінскай губерні, у гэты ж час выкладаў у Мар'інагорскім сельскагаспадарчым вучылішчы.

Серада быў сябрам Беларускай сацыялістычнай грамады. Пасля развалу БСГ – сябрам Беларускай партыі сацыялістаў-федэралістаў.

**Беларуская сацыялістычная грамада** – беларуская палітычная партыя леванародніцкага кірунку. Першая беларуская палітычная партыя. Была створаная ў 1902 годзе пад назвай Беларуская рэвалюцыйная грамада на аснове гурткоў беларускай студэнцкай і вучнёўскай моладзі ў Мінску, Вільні і Пецярбургу.

Ад 1914 года публікаваў допісы і артыкулы на сельскагаспадарчую тэматыку ў часопісе «Саха». На старонках «Сахі» прапагандаваліся прагрэсіўныя метады апрацоўкі зямлі, палепшаныя гатункі насення і г.д. Часопіс выходзіў на беларускай мове ў Вільні і Мінску. З пачаткам Першай сусветнай вайны выданне часопіса перарывается, а Серада ідзе на фронт. Гэта ўжо яго другая вайна.

Ад 1917 года Янка Серада пачынае актыўна ўдзельнічаць у беларускім нацыянальна-вызваленчым руху. У снежні 1917 года яго абралі старшынёй Усебеларускага з'езда, які пасля разагналі бальшавікі. Тады Сераду арыштавалі разам з яшчэ 27 дэлегатамі, але хутка адпусцілі.

У лютым 1918 года Серада разам з **Сымонам Рак-Міхайлоўскім** і **Аляксандрам Цвікевічам** удзельнічаў у мірных перамовах у Брэсце.

**Сымон Рак-Міхайлоўскі** – беларускі грамадска-палітычны дзеяч, публіцыст і педагог. Дэлегат Першага Усебеларускага з'езда, дзеяч Беларускай Народнай Рэспублікі. Нарадзіўся 2 красавіка 1885 года ў вёсцы Максімаўка Вілейскага павета.
**Аляксандр Цвікевіч** – беларускі грамадска-палітычны дзеяч, гісторык, юрыст, філосаф, публіцыст. Нарадзіўся 22 чэрвеня 1888 года ў Брэсце.

Падчас перамоў па заваршэнні вайны «без рэпарацый і кантрыбуцый» у Беларусі ўжо сфарміравалі першы беларускі ўрад. 20 лютага 1918 года быў створаны Народны Сакратарыят, а Янка Серада займае першую пасаду ва ўрадзе – міністр народнай гаспадаркі.

9 сакавіка 1918 года пасля прыняцця Другой Устаўной граматы Серада становіцца старшынёй Рады БНР.

**Пад яго кіраўніцтвам на пасяджэнні Рады ў ноч з 24 на 25 сакавіка большасцю галасоў прынялі Трэцюю Устаўную грамату. У ёй абвяшчалася незалежнасць Беларускай Народнай Рэспублікі.**

22 ліпеня 1918 года Рада БНР даручыла Янку Сераду сфарміраваць урад. У ім ён заняў пасаду Старшыні Народнага Сакратарыята і быў народным сакратаром замежных спраў да 11 лістапада 1918 года. Пасля Сераду адхілілі з пасады па абвінавачанні ў дзеяннях, не карысных для БНР.

У 1919-1920 гады Серада ўваходзіў у Часовы беларускі нацыянальны камітэт – орган, які каардынаваў беларускі нацыяналістычны рух падчас польска-савецкай вайны. Камітэт спыніў сваю дзейнасць пасля прыходу Чырвонай Арміі ў Мінск у ліпені 1920 года.

**Серада ўдзельнічаў у Найвышэйшай радзе БНР, быў сябрам прэзідыума. Гэты орган стварылі 14 снежня 1919 года пасля расколу Рады БНР праз супярэчнасці паміж яе дзеячамі па пытаннях аб адносінах да Польшчы.**

### Жыццё пры савецкай уладзе

Серада не збег за мяжу, застаўся на радзіме. У 1921-1925 гадах займаў пасаду навукова супрацоўніка і загадчыка бібліятэкі Інбелкульта. Выкладаў у Мінскім беларускім педагагічным тэхнікуме, працаваў у Народным камісарыяце земляробства БССР.

У ліпені 1925 – снежні 1929 года – дацэнт Беларускай сельскагаспадарчай акадэміі ў Горы-Горках. У 1927 годзе – супрацоўнік Беларускага навукова-даследчага інстытута сельскай і лясной гаспадаркі.

4 ліпеня 1930 года Янку Сераду арыштавалі супрацоўнікі Аб'яднанага дзяржаўнага палітычнага ўпраўлення (АДПУ) БССР па сфабрыкаванай справе «Саюза ення Беларусі».

**Справа «Саюза вызвалення Беларусі»** – сфальсіфікаваная палітычна-крымінальная справа, якую распачаў АДПУ БССР у 1930 годзе супраць дзеячаў беларускай навукі і культуры. Гэта крымінальная справа была часткай рэпрэсій, якія былі ў БССР у 1929-1931 гадах.

10 красавіка 1931 года Калегія АДПУ СССР прыняла пастанову, згодна з якой Янку Сераду ссылаюць у Яраслаўль на пяць гадоў. 27 снежня 1941 года яго паўторна асуджаюць на 10 гадоў зняволення. Аднак ужо 19 лістапада 1943 года Сераду датэрмінова вызваляюць у Краснаярскім краі. Далейшы лёс першага старшыні БНР застаецца невядомым дагэтуль.

10 ліпеня 1988 года Янка Серада рэабілітаваны Вярхоўным судом БССР па першым прысудзе, па другім – паводле Указа Прэзідыума Вярхоўнага Савета СССР 16 студзеня 1989 года.

**Настасся УТКІНА.**

● КАЛЯНДАР

**19 САКАВІКА**

**1858.** Нарадзіўся **Рудольф Дызель**, нямецкі вынаходнік. Вынайшаў рухавік унутранага запальвання, які названы яго іменем.

**1894.** У вёсцы Барані, цяпер Астравецкі раён, нарадзіўся **Альбін Стаповіч** (псеўданім Уладзімер Загорскі). Беларускі грамадска-палітычны і рэлігійны дзеяч, брат **Казіміра Сваяка**.

**1921.** У Рызе была падпісаная Рыжская мірная дамова, паводле якой заходнія беларускія землі передаваліся пад уладу Польшчы, а ўсходнія ўваходзілі ў склад РСФСР.

**20 САКАВІКА**

**1896.** У Смаргоні нарадзіўся **Мойшэ (Майсей) Кульбак**, яўрэйскі пісьменнік, драматург, перакладчык. Пісаў на ідышы. Вучыўся ў Валынскім ешыбоце. Працаваў настаўнікам у гімназіях Смаргоні, Мінска, Вільні. У 1920-1923 жыў і працаваў у Берліне. У СССР з 1928. Рэпрэсаваны. Загінуў у турме НКВД у 1937.

**21 САКАВІКА**

**1840.** У фальварку Свіраны (цяпер на тэрыторыі Літвы), нарадзіўся **Францішак Багушэвіч**, беларускі грамадскі дзеяч, адзін з пачынальнікаў новай беларускай літаратуры. Карыстаўся псеўданімамі Мацей Бурачок, Сымон Рэўка з-пад Барысава. Памёр у Кушлянах у 1900 годзе. Пахаваны ў Жупранах.



**22 САКАВІКА**

**1865.** У Валожыне нарадзіўся **Уладзіслаў Сівы-Сівіцкі (Стары Улас)**, беларускі паэт. Памёр у 1930 г.

**23 САКАВІКА**

**1927.** Польскія ўлады забаранілі партыю Беларуская сялянска-работніцкая грамада.

**24 САКАВІКА**

**1794.** У Польшчы і ВКЛ пачалося антырасійскае паўстанне пад кіраўніцтвам **Тадэвуша Касцюшкі**.

**25 САКАВІКА**

**1918.** Беларуская Народная Рэспубліка абвясціла незалежнасць. Трэцяя Устаўная грамата. Дзень Волі.

**1935.** У в. Дварэц ля Ільі нарадзіўся **Уладзімір Папковіч**, беларускі паэт і перакладчык.

**Падрыхтаваў Мікола ГАЙДУК.**

# «Для эканомікі важныя дэмакратыя і эксперыменты»

**Як уплывае на эканамічную сітуацыю краіны палітычны крызіс і што можна чакаць у будучым? Пра гэта расказаў старшы навуковы супрацоўнік Цэнтра эканамічных даследаванняў BEROC Леў Львоўскі.**


Фота Настассі УТКІНАЙ.

Эканамічны эксперт адзначае: не страшна, што людзі пераязджаюць у пошуках працы. Важна, каб эканоміка агулам расла, а людзі жылі лепш і былі больш прадуктыўныя ў працы.

### Ці абрынецца эканоміка

Цяпер эканоміка ў нас не разбураная. Усе складанасці можна адыграць вельмі хутка. Вытворчыя ланцужкі не разбураныя. І за год мы можам выйсці на рост, няхай і невялікі. Нас не чакае такое падзенне, як пасля развалу СССР, калі мы імкліва падалі ўніз, а пасля караскаліся ўверх. Мы пакуль не ўнізе, і няма прычын там апынуцца.

**Незразумела, чаму мы павінны кудысьці адкаціцца. Калі з усімі гэтымі стратнымі заводамі мы жывём так, як жывём цяпер, то калі раптам з усімі актуальнымі ведамі паспрабуем наладзіць працу прадпрыемстваў, чаму рэзка станем жыць горш? Магчыма, не пачнём расці па 6% за год, але і падаць не будзем.**

### Як атрымалася стагнацыя

Пасля развалу СССР эканамічная мадэль краіны была накіраваная на тое, каб накопліваць капітал. Каля 2005 года мы яго дастаткова накапілі.

**А галоўнай эканамічнай стратэгіяй улады было па-ранейшаму накапленне капіталу. У выніку вырас дзяржаўны доўг, за які мы плацім 5-6% гадавых у валюце.**

Спробы працягнуць экстэнсіўны шлях прывялі да таго, што даўгі раслі, але росту эканомікі не адбывалася. Апошнія дзесяць год у краіне была стагнацыя. Сярэднія тэмпы росту былі крыху вышэй за 1% пры сярэднім сусветным тэмпе ў 3%. Але Беларусь павінна мець лепшы паказчык, таму што краіна мае добры чалавечы капітал, лічыць эксперт.

Калі б не адбыўся палітычны крызіс, цяпер працягвалася б стагнацыя. Для эканамічнай сферы праблема нязменнай улады ў тым, што калі ўлада не мяняецца, то ёй складана прызнаць памылкі.

**Калі да ўлады прыходзіць новы прэзідэнт, яму лёгка агучыць памылкі, якія адбыліся пры папярэдніку. А пасля іх адкрыта выпраўляць.**

### Што не так з АЭС

Хрэстаматыйны прыклад – Беларуская АЭС. Ідэя станцыі ўзнікла яшчэ ў савецкія часы. Але тады не было б праблемы, што Літва адмовіцца закупляць электраэнергію. Выходзілі з тэмпаў росту энергаспажывання, якія былі тады. Каля 2000 года тэмпы росту пералічылі, ацанілі, што энергаспажыванне будзе расці па 5% за год. І на 2020 год спажыванне павялічыцца ўдвая.

Але рост замарудзіўся, да таго ж сусветная тэндэнцыя такая, што рост вытворчасці ідзе, але што тычыцца спажывання энергіі, то наперад рушылі энергазберагальныя прынцыпы. Таму якім чынам мы задзейнічаем магутнасці станцыі, не вельмі зразумела.

### Козыры Беларусі

У Беларусі ёсць тры перавагі: чалавечы капітал, транспартныя шляхі і прыродакарыстанне. У Беларусі, як у Расіі, і Польшчы якасць чалавечага капіталу была высокай і ў часы ССР, і застаецца такой цяпер. Можна паназіраць, як гэтым скарысталася рознае кіраўніцтва.

### Ці страшна, што з'язджаюць з вёсак і малых гарадоў

У цэлым для эканомікі не вельмі важна, дзе жывуць людзі. Важна толькі тое, як яны жывуць. Калі эканамічная сітуацыя будзе такой, што рацыянальней сабрацца ўсім у Мінску і зладзіць там другую Маскву, сабраць там усю вытворчасць будзе больш эфектыўна, то навошта гэтаму супраціўляцца?

**Цяпер працягваецца глабальная тэндэнцыя на ўрбанізацыю. Аграгарадкі будуць, хутчэй за ўсё, выміраць. Асабліва, калі яны аддаленыя ад буйных цэнтраў.**

Таму што рост у вытворчасці і сферы паслуг нашмат вышэйшы, чым у аграрным сектары. Самі па сабе яны не выжывуць без датацый. У гэтым няма нічога кепскага, што людзі пераязджаюць працаваць у іншы горад.

Разумею, што дэградацыя гарадоў ва ўяўленні падаецца непрыемнай, але гэта насамрэч не так страшна. Натуральна, што некаторыя індустрыі адміраюць. У ЗША ёсць горад Дэтройт, які дэградаваў. Адтуль масава з'язджалі. Але ж былыя дэтройцы знайшлі працу ў іншых месцах, дзе больш патрэбныя. І краіна ў цэлым развіваецца, і эканоміка расце.

### Лекі супраць беднасці

Аднойчы я размаўляў з прафесарам, які працуе ва ўстанове, што змагаецца з беднасцю ў Кітаі. Ён спрабаваў шмат розных варыянтаў для вырашэння праблемы. Досвед паказаў найбольш эфектыўныя – усеагульная адукацыя і мікракрэдыты, якія даваляюць людзям пераехаць у гарады, дзе ёсць праца.

**Ужо прайшоў час, калі дзяржава забяспечвае працу там, дзе жывуць людзі. Працу ствараюць прадпрымальнікі, бізнесмены, кіраўнікі. І разумней пераязджаць туды, дзе яна ёсць.**

Калі вы знайшлі працу ў Мінску, а жывяце ў іншым горадзе, значыць, у Мінску вы больш патрэбныя, ваша прадуктыўнасць тут будзе вышэйшая, і эфектыўнасць ад дзейнасці. Чым будаваць вадакачку каля дома ў вёсцы, прасцей перавезці спецыяліста туды, дзе ёсць праца і ўсе ўмовы.

Для эканомікі важныя дэмакратыя і эксперыменты. А пасля прызнаць эксперымент удалым або адзначыць памылкі.

Экстэнсіўны шлях эканамічнага росту – павелічэнне колькасных фактараў вытворчасці, пры гэтым тэхналагічная база застаецца ранейшай.
У супрацьлегласць гэтаму шляху існуе інтэнсіўны. Пры ім выкарыстоўваюць больш эфектыўныя і якасна дасканалыя фактары вытворчасці. Маштабы вытворчасці павялічваюцца за кошт лепшай тэхнікі, навейшых тэхналогій, дасягненняў навукі, павышэння кваліфікацыі спецыялістаў.
Так павышаецца якасць прадукцыі, расце вытворчасць, зберагаюцца рэсурсы.



Падрыхтавала Зоя ХРУЦКАЯ
regionnews@rh.by
(8-033) 66-719-77

# Узбудзілі крымінальную справу за вокліч «Жыве Беларусь!» у калідоры суда

**18 лютага ў Смаргоні агучылі прысуд па справе Інэсы Маркавай і Руслана Валюка. Іх абвінавачвалі па артыкуле аб паклёпе: нібыта яны з дапамогай улётак зганьбілі супрацоўнікаў мясцовага аддзялення міліцыі. Пасля прысуду нехта з людзей, што падтрымлівалі Маркаву і Валюка, крыкнуў «Жыве Беларусь».**




Галоўная сведка па справе – старшыня смаргонскага суда.

Вокліч «Жыве Беларусь» у калідоры суда стаў нагодай для ўзбуджэння крымінальнай справы аб хуліганстве. Цяпер усіх, хто знаходзіўся на працэсе Маркавай і Валюка, выклікаюць у Следчы камітэт, а некаторых затрымліваюць на суткі.

«Рэгіянальная газета» пагутарыла з Русланам Валюком, **Марэт Валюк**, **Рамуальдам Уланам**, **Яўгенам Мацкевічам**. Яны былі на пасяджэнні і расказалі, што адбывалася ў той дзень

### «Хто тут крычыць «Жыве Беларусь!»?

З Русланам і Марэт мы сустракаемся ля Цэнтральнай плошчы ў Смаргоні. Побач – райвыканкам. Гутарыць пасярод плошчы яны асцерагаюцца. Па словах Руслана, хтосьці можа выклікаць нарад міліцыі і іх абвінавацяць у несанкцыянаваным мітынгу.

Руслан атрымаў два гады абмежавання волі, у хуткім часе ён адправіцца адбываць тэрмін на так званую «хімію». Мужчына ўспамінае, што 18 лютага пасля агучвання прысуду ён разам з Маркавай застаўся ў судовай зале: яны падпісвалі паперы. Людзі, што падтрымлівалі падчас пасяджэння, засталіся чакаць ужо асуджаных на калідоры.

– Мы з Маркавай выйшлі на калідор, пачалі адзывацца. На працягу хвіліны выскачыла Пятрова са словамі: «Хто тут крычыць «Жыве Беларусь!»? Што тут за лозунгі?».

**Людміла Пятрова** – старшыня суда Смаргонскага раёна. Пасля воклічу яна выйшла з суседняй залы і заявіла, што людзі парушаюць грамадскі парадак. Пятрова папрасіла ахоўніка выклікаць міліцыянераў.

– Па-першае, яна пачала крычаць. Пабегла да ахоўніка, нам забаранілі выходзіць з суда, – успамінае маці Руслана **Марэт**.

Людзей заблакавалі ў будынку суда прыкладна на гадзіну. Руслану Валюку стала кепска, яму выклікалі «хуткую». Яго маці Марэт і сястра **Любоў** засталіся ў судзе, пасля іх прывялі ў мясцовы РАУС. Яны правялі там некалькі гадзін, пасля адпусцілі, як і астатніх людзей, якіх затрымалі ў судзе.

У ізалятар часовага ўтрымання адвялі толькі **Сяргея Трая**. 19 лютага мужчыну асудзілі за пікетаванне, на судзе Валюка і Маркавай ён сядзеў у белчырвона-белым шаліку. 19 лютага смаргонскія міліцыянеры затрымалі **Ілю Петунова**, **Людмілу Сульжыцкую**, Рамуальда Улана, **Яўгена Новікава**.

Усіх адпусцілі, а ў судзе адміністрацыйныя справы адправілі на дапрацоўку ў міліцыю. Руслан Валюк паведаміў, што апошнім часам следчыя часта выклікаюць на допыты ў Следчы камітэт, у тым ліку і яго сваякоў – сястру Любоў і маці Марэт.

– Гэта справа па «Жыве Беларусь!» у іх не адзіная. Яшчэ некалькі ўзбуджаных, і яны выклікаюць усіх, каго за гэты час судзілі па народным артыкуле 23.34 КаАП.

### Справа за фразу, якая ёсць у гімне

Рамуальд Улан і Яўген Мацкевіч паспелі сысці раней за ўсіх. Улан і Мацкевіч не абвяргаюць, што пасля агучвання прысуду нехта ў калідоры суда крыкнуў «Жыве Беларусь!». Яны не ведаюць, хто гэта быў.

Яўген Мацкевіч расказаў карэспандэнту «Рэгіянальнай газеты», што да яго прыходзілі супрацоўнікі міліцыі, прасілі праехаць разам з ім.

– Яны прадставіліся, сказалі, што хочуць паразмаўляць. Але не ў мяне на падворку, а ў аддзяленні. Я ім і кажу, а ці ёсць павестка ў іх. Не было, то і не паехаў нікуды.

**Мацкевіч запэўнівае, што за ім на працягу некалькіх дзён ездзілі міліцыянеры на машыне. А пасля затрымалі. У яго ў доме правялі агляд, аднак нічога не знайшлі. Мацкевіча арыштавалі на трое сутак, а пасля адпусцілі.**

– Я сядзеў якраз на Дзень міліцыі. Уключалі патрыятычную музыку, у мяне ў выніку здарыўся нервовы зрыў. Пачаў грукаць у дзверы, на мяне мацюкаліся, але музыку адключылі. Я спакойна адседзеў суткі, – успамінае Яўген.

18 лютага пасля пасяджэння па Маркавай і Валюку Улан адразу пайшоў на работу. Увечары даведаўся, што людзей, якія засталіся ў судзе, забралі ў міліцыю. Да яго таксама прыходзілі супрацоўнікі Смаргонскага РАУС, гутарылі з ім у райаддзеле. На наступны дзень, 19 лютага, затрымалі на трое сутак.

– Нас адпусцілі пасля трох сутак. Суддзя **Боландзь** сказаў, што ў справе ёсць недапрацоўкі.

**Потым прыйшло паведамленне, што мая адміністрацыйная справа накіраваная ў суд Астравецкага раёна.**

Улан адзначыў, што яго ўжо выклікалі ў смаргонскі аддзел Следчага камітэта. Там ён даведаўся, што ўзбуджаная крымінальная справа па факце парушэння грамадскага парадку па злосным хуліганстве. Галоўны сведка – старшыня суда Смаргонскага раёна Людміла Пятрова.

– Злоснае хуліганства – гэта калі пабіліся, брыдкасловілі. Але за два словы – «Жыве Беларусь!»? Калі мы сядзелі з Яўгенам Новікавым у ізалятары, то там гімн вісіць. Там жа выразна напісана: «Вечна жыві і квітней Беларусь». Узбудзілі справу за фразу, якая ёсць у дзяржаўным гімне.

**Настасся УТКІНА.**
**Фота аўтара.**

## Гродзенскі суд пакінуў без змен прысуд смаргонцу Рамуальду Улану

11 сакавіка абласны Гродзенскі суд пакінуў без змен прыгавор прадпрымальніку са Смаргоні, былому заснавальніку і выдаўцу прыватнага выдання «Новая газета Смаргоні» (1996-2005).

Нагадаем, што Смаргонскі суд прысудзіў Улану два з паловай гады хіміі. Мужчына падаваў на абскарджанне прысуду ў абласны суд.

Смаргонцу паставілі ў віну тое, што ён распаўсюдзіў заведама непраўдзівыя звесткі, якія ганьбяць гонар і годнасць міліцыянераў. Пацярпелымі па справе праходзяць сямёра супрацоўнікаў Смаргонскага райаддзела міліцыі.

– Ні 220 подпісаў смаргонцаў, ні пасведчанне інваліда першай групы 89-гадовай матулі не падзейнічалі на гродзенскіх суддзяў, – сказаў Рамуальд Улан.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

## «Не разумею, што парушыла». Гутарка з затрыманай па «справе лыжнікаў»

14 лютага пад вёскай Лешна ў Маладзечанскім раёне затрымалі 19 чалавек. Людзі сабраліся пакатацца на лыжах. Іх абвінавацілі ва ўдзеле ў несанкцыянаваным масавым мерапрыемстве. Усяго па «справе лыжнікаў» людзі атрымалі 165 дзён адміністрацыйнага арышту і штрафы на 6 235 рублёў.

«Рэгіянальная газета» пагутарыла з затрыманай **Тамарай Сіняўскай**. Жанчына працуе настаўніцай хіміі ў адной з маладзечанскіх школ. Пра 14 лютага ўспамінае так:

– Знаёмыя запрасілі пакатацца на лыжах. Былі ў белым і чырвоным адзенні таму, што гэта прыгожа.

Лыжнікі з'ехалі з горкі, і ў гэты час на той горцы з'явіліся міліцыянеры. Тамара расказала, што не адразу зразумела, ці гэта былі міліцыянеры, ці супрацоўнікі АМАПа.

– Яны пачалі крычаць. «Страляем на паражэнне!», пасля акружылі нас. Трымаліся ўвесь час за свае рэвальверы, хаця ніхто з нас не супраціўляўся. Хлопцам пачалі заломваць рукі, дзяўчаты казалі, каб міліцыянеры гэтага не рабілі.

Тамару асудзілі на 15 сутак адміністрацыйнага арышту. Па яе словах, судовае пасяджэнне цягнулася каля 10 хвілін: на ім выслухалі паказанні жанчыны, сведчанні міліцыянераў.

– Была здзіўленая пастановай. Я і цяпер не разумею, што парушыла. Пасля вызвалення з'явіліся такія эмацыйныя здымкі, дзе мы плачам. Але гэта не ад таго, што нас затрымалі. У сацыяльных сетках пішуць, што калі б нічога не парушалі, то і не плакалі б. А я і да цяперашняга часу не ведаю, што парушыла.

**Аддзел інфармацыі.**

# Змаглі скарыць вілейчукоў добрай

## Уладзімір Балбачан – пра музычнае жыццё Вілейкі 1960-1970 гадоў і гісторыю

ВІЛЕЙКА

**У сярэдзіне 1970-х у Вілейцы з'явіўся першы вакальна-інструментальны ансамбль. Маладыя сімпатычныя хлопцы з гітарамі, ударнікамі, клавішамі давалі канцэрты і ігралі на танцах па выхадных.**



ВІА «Кудесники», 1971 год.

У музычную гісторыю Вілейкі гурт увайшоў пад назвай «Кудесники». Чаму «Кудесники»? Бо, не маючы ні дарагіх інструментаў, ні якаснай апаратуры, ні патрэбнай музычнай адукацыі, хлопцы змаглі стварыць першы ВІА ў Вілейцы.

Пра гісторыю стварэння калектыву і музычнае жыццё Вілейшчыны ў 1960-1970 гадах у сваіх успамінах піша віляйчанін, музыкант, колішні стваральнік і кіраўнік «Кудесников» Уладзімір Балбачан.

### Музычная Вілейка сярэдзіны 1960-х

Наколькі памятаю, у 1964 годзе ў Вілейцы, у гарадскім парку, на танцах яшчэ іграў духавы аркестр пад кіраўніцтвам **Мікалая Скараходава**. Часам яго падмяняў **Дзмітры Бекеш** – лепшы трубач аркестра. Рэпертуар быў такі ж, як і ва ўсіх духавых аркестраў той пары. У 1965 годзе я ўжо пачаў хадзіць на танцавальныя вечары, працаваў на рамонтным заводзе і вучыўся ў вячэрняй школе. Тады на танцах іграў джаз-аркестр пад кіраўніцтвам выпускніка Маладзечанскага музвучылішча **Валерыя Старавойтава** – моцнага джазавага музыканта-трубача. Шкада, што прабыў ён у Вілейцы года паўтара. Пасля яго запрасілі кіраваць аркестрам у новы Салігорскі Палац культуры. У Вілейцы яго аркестр іграў амерыканскі джаз, блюзы, боса-нова, шмат п'ес у стылі свінг. Гэта была зусім іншая музыка ў параўнанні з духавым аркестрам, вялікі прарыў у эстраднай музыцы Вілейкі. Не было толькі гітар і вакальных спеваў. Добрую інструментальную музыку ігралі мае аднагодкі: на саксафонах – **Анатоль Фінкельштэйн** і **Юра Агапаў**, на трамбоне – **Гена Прылепскі**, на кантрабасе – **Лёва Капцелаў**, на ўдарных – **Валодзя Петрашэвіч**. А яшчэ на саксафоне іграў **Юра Маліноўскі**. Разам з ім мы вучыліся ў СШ №2. А з яго братам, **Яўгенам**, у 1970-х стварылі першы ў Вілейцы вакальна-інструментальны ансамбль.

### Чым скончыўся першы музычны эксперымент на танцпляцоўцы

У той час я пачынаў іграць на сяміструннай гітары. Захапляўся дваровай музыкай, блатнымі песнямі. Цяпер гэта называецца «шансон». Пазней захапіўся бардаўскай песняй – Высоцкім, Візбарам, Гарадніцкім, Кукіным. Асабліва падабаўся Юры Візбар. Падабаецца і цяпер.

На гітары тады добра ніхто не іграў. Крыху спрабаваў на шасціструннай мой сябар і аднакласнік **Барыс Петрашэвіч**. Ён ведаў некалькі акордаў і іх абазначэнне. Гэта ўсё яму паказаў сваяк, што прыязджаў з Гродна і іграў там у нейкім ансамблі. Барыс быў сучасны хлопец, любіў «Бітлз», «Ролінг Стоўнз», меў цудоўную памяць. Асабліва добра даваліся яму замежныя мовы: ведаў нямецкую, польскую, крыху англійскую. Вось з ім мы ўпершыню і паспрабавалі іграць песні «Бітлз», замежных і айчынных выканаўцаў. Ігралі ў дзве гітары – сола і рытм, перыядычна мяняючыся. Бас-гітары пакуль не было. Ігралі песні гурта «Спяваючыя гітары» – «Дай намарыць», «Дом Узыходнага сонца», «Прыцемак» («Сумерки») і іншыя. Набралі невялікі рэпертуар, прыкладна 12-15 кампазіцый.

Летам 1967 года, калі аркестра на танцпляцоўцы не было, мы рызыкнулі сыграць на танцах хаця б адно аддзяленне, 45-50 хвілін. Спачатку іграў прайгравальнік ці магнітафон, а пасля – мы: Барыс Петрашэвіч, **Васіль Хаценчык** і я. Дэбют наш аказаўся няўдалым. Сыгралі адно аддзяленне. Бачым: народ глядзіць на нас, як на цуд, ніхто не танцуе. Ды і хуткіх п'ес у нашым рэпертуары амаль не было. Пераважна – павольныя блюзы. Калі зайграў магнітафон, народ пайшоў танцаваць. Больш падобных эксперыментаў мы не праводзілі.

### Поспех прынёс новы 1971 год

У мяне пачалося іншае жыццё. У 1968 я адвучыўся ў Мінску на электрагазазваршчыка і стаў працаваць на МАЗе. У Вілейцы бываў рэдка. У сталіцы яшчэ больш захапіўся бардаўскай песняй.

Ужо падчас службы ў войску атрымаў ліст ад вілейскага сябра **Анатоля Ахунзянава**. Ён падрабязна апісаў мне музычнае жыццё ў Вілейцы і Мінску. Пісаў, што ўсюды ствараюцца вакальна-інструментальныя ансамблі, напрыклад, «Лявоны», а пасля «Песняры». Прапанаваў стварыць ВІА і нам у Вілейцы, на базе рамзавода, калі я вярнуся з войска. Паведаміў, што ў Вілейцы ёсць добрыя музыканты – Жэня Маліноўскі і **Уладзімір Абрамчук**. Я пагадзіўся.

Вярнуўшыся ў Вілейку, паспрабаваў увайсці ў новую музычную плынь. Спатрэбілася нямала сіл. Музычнай адукацыі не хапала, у свой час скончыў толькі клас баяна ў музычнай школе. Не хапала і навыкаў ігры на шасціструннай гітары. Мусіў за два-тры месяцы перавучвацца з сямiструннай на шасціструнную. Пазнаёміўся з вілейскімі музыкантамі. Жэня Маліноўскі добра іграў на гітары, чыста спяваў, быў добрым аранжыроўшчыкам, умеў выстройваць трохгалосыя вакальныя партыі, ведаў літарныя абазначэнні акордаў. Для мяне ўсё гэта пакуль было новым. З часам я асвоіў шасціструнную гітару і спевы трохгалоссем, але асабліва падабалася спяваць сольна. Стройна пеў у трохгалоссі і Валодзя Абрамчук. А Анатоль Азунзянаў, патрэніраваўшыся ў Мінску, у аркестры тэхналагічнага інстытута, ужо нядрэнна іграў на ўдарных і саксафоне.

Пачалі рэпеціраваць, рыхтавацца да новага, 1971, года. Лідарам быў Жэня. Ён рабіў аранжыроўкі, без нот выбудоўваў вакальныя партыі. Часам мне было нялёгка маральна. Думалася: гэты малады хлопец вучыць мяне, дарослага мужыка, які адслужыў у войску. Але я вучыўся, гадзінамі не выпускаў з рук гітару. Прыходжу з працы на рамзаводзе, з'ем – і адпрацоўваю акорды, запамінаю тэксты, вучу вакальныя партыі. Жэню я і сёння ўдзячны за падтрымку ў маёй музычнай адукацыі. Гэтыя гады сталі перыядам майго станаўлення не як гітарыста-барда, а як эстраднага выканаўцы.

Першае наша выступленне прайшло ў клубе рамзавода. Выступілі вельмі добра, нас адразу заўважылі. Пасля з поспехам выступілі на перадэнавагоднім карнавале ў СШ №3. А з 1 студзеня 1971 года нас запрасілі іграць пастаянна, па суботах і нядзелях, на танцах у гарадскім Доме культуры. Ад студзеня фурор у ДК быў ашаламляльны. Такога ў нашым горадзе яшчэ не было. Чацвёра сімпатычных хлопцаў, новае гучанне электрагітар, спевы ў тры галасы, добрыя новыя песні, якіх яшчэ ніхто не чуў… А песні былі такія – «Сонца скрозь лістоту», «Першы сонца прамень», «За акном чаромха калышацца». Старыя песні, але ў новай аранжыроўцы Жэні, запальвалі моладзь. Ды недзе на пачатку лютага Жэня аб'явіў, што сыходзіць, бо яму трэба вучыцца. За сябрам пайшоў і Валодзя Абрамчук. Мусіў я стаць лідарам і кіраўніком ансамбля. Тым больш, за ігру на танцах нам ужо пачалі плаціць грошы, хай і невялікія.

### Як з'явіліся «Кудесники»

Мы засталіся ўдвух: я і Толя Ахунзянаў. Патрэбныя былі новыя музыканты. Але дзе іх браць? Давалі аб'явы, пыталіся-перапытваліся ў соцень людзей: магчыма хтосьці ў войску іграў на гітары або ў мастацкай самадзейнасці? Так знайшлі новых музыкантаў. Амаль месяц не ігралі на танцах, працавалі над рэпертуарам. З'явілася бас-гітара, на якой іграў **Віктар Станкевіч** – добры музыкант, хутка ўсё схопліваў, толькі амаль не спяваў. Другім музыкантам аказаўся мой сусед па Стаханаўскай вуліцы **Клім Дзяржавец**. Дарэчы, яго дачка Алеся спявае ў аркестры берга. Клім цудоўна спяваў, любіў саліраваць, сам складаў песні. Ужо падчас працы ў ансамблі засвоіў рытм-гітару. І ўсё стала на свае месцы. Ахунзянаў па-ранейшаму іграў на ўдарных. Крыху пазней яго часам стаў замяняць **Слава Саўчыц**. У ДК нарэшце набылі ўдарную ўстаноўку з Рыгі, пару балгарскіх гітар «Іаланта», бас-гітару «Арфей», узмацняльную апаратуру, самы танны варыянт клавішаў «Іоніка». Гэта быў невялікі рух наперад.

Назва «Кудесники» з'явілася бліжэй да лета 1971. Чаму? Бо мы амаль з нічога, не маючы нармальнай апаратуры, добрых інструментаў, без сапраўднай музычнай адукацыі, змаглі скарыць людзей сваёй простай, добрай музыкай і вакалам.

### Спявалі Антонава, Дабрыніна і нават «Бітлз»

У верасні 1971-га я паступіў завочна ў Маладзечанскае музвучылішча. І тады ж афіцыйна ўладкаваўся на працу ў ДК кіраўніком ансамбля. Праўда, ад канца 1972 і да сярэдзіны 1973 у ансамблі не іграў. Я жаніўся. Трэба было думаць пра больш надзейную працу, заробак, кватэру. Таму пайшоў зваршчыкам. Гэта было памылкай. Ансамбль пачаў прыходзіць у заняпад і на танцах амаль не іграў. Дырэктар ДК **Уладзімір Старавойтаў** неяк пры сустрэчы запрасіў вярнуцца. Паабяцаў набыць новую апаратуру і дапамагчы з кватэрай. Я пагадзіўся. Пры мне прыйшлі новыя людзі – **Алег Зайцаў** і **Алег Свінтухоўскі**. Такім чынам восенню 1973 года наш склад стаў іншым: дадаўся клавішнік Алег Зайцаў, гітарыст сола-рытм **Уладзімір Барысенка**, на бас-гітары ўжо іграў **Анатоль Падрэз**, на ўдарных – **Васіль Герасімчык**. З першага складу групы застаўся толькі Клім Дзяржавец.

# музыкай і прыгожым вакалам

## ВІА «Кудесники»



ВІА завода «Зеніт», 1976 год.

Алег Зайцаў сапраўды ўпрыгожыў нашу групу. Сола цяпер гучала не толькі на гітары, але і на сінтэзатары. Ён спачатку крыху саромеўся. Відаць, таму, што меў толькі 15 год. Пасля стаў іграць упэўнена, імправізаваў. А паступіўшы ў музвучылішча, зайграў яшчэ лепш. У нас у рэпертуары сталі з'яўляцца інструментальныя мелодыі «Ціка-ціка Абрэ», мелодыя з фільма «Шэрбургскія парасонікі», з рэпертуару аркестра Поля Марыа, мой уласны блюз «Пад небам Прыбалтыкі».

І ўсё ж народ больш любіў нашы спевы. Рэпертуар быў шырокі – шмат з Юрыя Антонава, Вячаслава Дабрыніна, Анатоля Дняпрова, ансамбля «Арызонт». А нашай фірменнай была песня «Восень».

Замежных песень было няшмат. Клім і я вывучалі нямецкую, а большасць замежных песень былі на-англійскай, італьянскай, французскай, іспанскай. Англійскую ведаў толькі Алег Зайцаў. Вось ён і спяваў «Бітлз». А нам з Клімам пісаў па-руску транскрыпцыі гэтых песень. Аднак сола мы не спявалі, бо вымаўленне было дрэннае. Часам падпявалі некаторыя партыі. Мы спявалі на польскай мове, з ёй праблем не было. У дзяцінстве мы з Клімам жылі на Стаханаўскай, а там шмат сямей ведала польскую мову. Памятаю «Не спочнемы», «Закоханы», «Уцекай моё сэрца» Севярына Краеўскага. А яшчэ я спяваў па-іспанску «Бэсамэ мучо».

### Як прыйшоў у ансамбль школьнік Валеры Скаражонак

У 1974 годзе ў нас з'явіўся новы музыкант – **Валеры Скаражонак**. Цяпер ён вядомы артыст, экс-саліст «Песняроў». Спачатку ён замяняў на ўдарных **Васіля Герасімчыка**. А яшчэ Валера цудоўна спяваў. Толькі ён, 14-гадовы хлопец, тады яшчэ вучыўся ў СШ №2.

Настаўнікі ніяк не хацелі яго адпускаць на рэпетыцыі ў ДК. І ўсё ж я пагутарыў з класным кіраўніком Валерыя **Святланай Панковай**. І тады Валеры стаў іграць пастаянна. У той час у нашым рэпертуары з'явіліся беларускія песні з рэпертуару «Песняроў». 1975 год стаў пікам нашай папулярнасці.

### Праблемы і заняпад ансамбля

У 1976 годзе дырэктар паведаміў мне, што ў ДК уладкоўваецца новы чалавек, моцны музыкант **Анатоль Шагаў**. Ён ажаніўся з віляйчанкай **Людмілай Сянкевіч**. Анатоль скончыў кансерваторыю па класе харавога дырыжыравання. І ў нас збіраўся арганізаваць добры хор. Хаця нядрэнны хор пад кіраўніцтвам **Міхаіла Мельніка** ў палацы ўжо быў.

– У цябе ёсць праблемы з бас-гітарай, вось ён і дапаможа, – сказаў тады дырэктар.

Не хаваю, што да прыхода Шагава, у 1975-1976 гадах, у нашым калектыве былі праблемы. На рэпетыцыі музыканты дазвалялі сабе прыходзіць нецвярозымі. Часам і я так рабіў. За гэта і сёння сорамна. А з некаторымі ўдзельнікамі была проста бяда. Даходзіла да таго, што я сам мусіў браць бас-гітару ці іншы інструмент і дайграваць партыі. Ад гэтага цярпела якасць музыкі і адносіны да нас публікі. Рэйтыг ансамбля стаў падаць. На рэпетыцыі прыходзілі не ўсе і не заўсёды. Рэпертуар амаль не змяняўся. Наша музыка крыху надакучыла людзям, з'явіўся новы стыль – дыска. Людзі прасілі англійскіх песень, а мы па пэўных прычынах не маглі іх спяваць.

З прыходам Анатоля Шагава спачатку ўсё зрушылася ў лепшы бок. Пачалі хадзіць на рэпетыцыі. Толя стаў пацыху іграць на бас-гітары. Праўда, адразу не зусім так, як трэба, не ў эстрадныя манеры. Я рабіў яму заўвагі. Канешне, яму пасля кансерваторыі мае настаўленні было слухаць непрыемна, але ён цярпеў, бо быў музыкантам вышэйшага класа. Іграў на фартэпіяна, баяне, чытаў ноты адразу з ліста. У Вілейцы музыканта такога ўзроўню тады не было. Ды і цяпер няма. Хутка ён засвоіў прыёмы ігры на бас-гітары.

Але пасля пачаў умешвацца ў вакальныя партыі. Прывёў у ансамбль дзвюх дзяўчат-спявачак. Адну з іх звалі **Таццяна Вячэра**. Тады ўваходзілі ў моду гурты «АББА», «Боні-М», «Смокі». Песні былі больш складаныя за тыя, што мы выконвалі раней. Шагаў шмат рэпеціраваў, але ўжо больш з тымі дзяўчатамі. Я цяпер часцей іграў на бас-гітары, Толя – на клавішах. Алег Зайцаў да таго часу ўжо паступіў у музвучылішча. Я не разумеў, навошта на танцах такая складаная музыка. Гэта ж не філармонія, не канцэрт.

А тут, у 1976 годзе, калі я заканчваў музвучылішча, атрымаў адразу дзве прапановы: узначаліць самадзейнасць на заводзе «Зеніт» або стварыць эстрадны квартэт у рэстаране «Вілія». Мы з сям'ёй па-ранейшаму жылі з бацькамі ў невялікім доме на Стаханаўскай. А на «Зеніце» паабяцалі кватэру цягам года-двух. У ДК з кватэрай так нічога і не атрымалася.

Некаторы час яшчэ працаваў у ДК і падпрацоўваў па выхадных у «Віліі». Арганізаваў квартэт: **Уладзімір Навуменкаў** – клавішныя і акардэон, Барыс Пятрашэвіч – бас-гітара і вакал. На ўдарных іграў Васіль Хаценчык, пасля яго замяніў **Сяргей Міронаў** – вельмі добры вайсковы музыкант з Магнітагорска. Я спяваў і іграў на гітары сола і рытм. Ганарары былі нядрэнныя. Ігралі папулярныя песні, народную і інструментальную музыку, рэстаранныя хіты. Трэба было ведаць шмат песень на замову – ад застольных да сучасных. Тры месяцы мусіў лётаць з рэстарана да ДК. Але пасля больш не змог. Тым больш Анатоль Шагаў амаль цалкам узяў на сябе кіраўніцтва ансамблем. Пачаў сам рабіць аранжыроўкі, ладзіць рэпетыцыі. Ды і маіх музыкантаў з першага і другога складу там ужо не было.

Ужо ў 1990-х я неяк сустрэў Шагава на вуліцы. Ён сказаў, што і сам шкадуе, што ўлез тады ў наш калектыў. А пасля ўсё кінуў і сышоў, бо гэта было не яго. Так наш ВІА ў Вілейцы перастаў існаваць. А Шагаў стварыў цудоўны хор і яшчэ некалькі калектываў. А ў 2009 годзе дапамог мне з падпрацоўкай.

### Пра музычнае жыццё завода «Зеніт»

Такім чынам, вясной 1976-га я пайшоў працаваць на «Зеніт». Кіраваў мастацкай самадзейнасцю. Працаваў у адным кабінеце з сябрам **Віктарам Шудрыкавым**, які загадваў сектарам спорту. Стварыў тут ВІА. Ахвотных было шмат. Склад атрымаўся наступны: **Людміла Лапцік** і яе сяброўка **Сільвановіч** – скрыпкі, **Сямён Пісманік** – ударныя, вакал, **Анатоль Падрэз** (былы ўдзельнік «Кудесников») – бас-гітара, Клім Дзержавец – (таксама з «Кудесников») – вакал, **Мікалай Бяссмертны** – рытм-гітара, **Альбіна Сляпцова** – клавішы, **Вячаслаў Кічасаў** – трубач, **Дзмітры Стрэж** – саліст. Я быў кіраўніком, іграў сола і рытм на гітары і спяваў. З поспехам мы выступалі перад работнікамі завода, ладзілі танцавальныя вечары ў фае, перад актавай залай прадпрыемства. З канцэртамі ездзілі да падшэфных калгасаў. Дзейнічаў на «Зеніце» добры танцавальны калектыў, якім кіравала **Людміла Сокал**. Быў і абаяльны вядучы **Аляксандр Давыдаў**. Я наладзіў адносіны з адміністратарам Беларускай філармоніі **Валянцінай Іванавай**. Да нас сталі прыязджаць з канцэртамі калектывы «Верасы», «Чараўніцы», «Карабейнікі», Іван Паповіч з Украіны, Вана Томас з Эстоніі.

### Чаму іграць вяселлі не проста

У тым жа 1976-м сябар Анатоль Ахунзянаў прапанаваў невялікім складам іграць вяселлі. Ён ужо адыграў некалькі вяселляў у Ільянскім сельсавеце. Працаваць трэба было тры дні – пятніцу і выхадныя. За гэты час атрымлівалі амаль па сто рублёў на брата. Я сумняваўся. Раней ніхто з эстрадных музыкантаў на вяселлях не іграў, гэта лічылася ганебным. Ігралі вясковыя музыканты-самавукі, пераважна сталыя – цымбалы, баян і бубен. За сталом спявалі толькі народныя і застольныя песні.

Але я пагадзіўся. І першае вяселле мы адыгралі бліжэй да восені 1976 года ў кафэ «Вяснянка». Жаніўся мой знаёмы, мічман вайсковай часці «Антэй» **Барыс Бавулін**. На баяне іграў **Уладзімір Ганчарык**, мой выкладчык у музшколе, Анатоль – на ўдарных і саксафоне, я – на электрагітары і спяваў. Часам мне падпяваў Уладзімір. Пазней я запрасіў у калектыў **Уладзіміра Навуменкава**. Ігралі без бас-гітары, але я іграў на гітары з басовымі струнамі і баян дубляваў партыю баса. Ігралі толькі адзін вечар. Зарабілі сто рублёў – на траіх. Пасля спрацавала сарафанная радыё. Ужо да мяне ў кабінет на «Зеніце» пачалі прыходзіць маладыя і прасілі іграць ім вяселлі.

Звычайна пятніцу і суботу ігралі ў маладой, а ўвечары ехалі да маладога. Ігралі ў клубе або вялікай хаце амаль да чатырох раніцы. У нядзелю з абеду і да 18:00 ігралі «маршы», і вяселле заканчвалася. Многія хацелі, каб на іх вяселлі іграў менавіта наш ансамбль. Спачатку працавалі адны на горад і раён. Гледзячы на наш поспех, іншыя музыканты таксама пачалі ствараць падобныя гурты.

Аднак вяселлі – гэта не проста. Ёсць свае падводныя камяні. Трэба мець моцнае здароўе, акуратна адносіцца да алкаголю і жанчын, каб не страціць сваю сям'ю. Іграць трэба весела, мець харызму, быць энергічным і смелым. Не ва ўсіх атрымлівалася. А мы ігралі. Часта гучала полька «А чаму ж ты лысы без валос астаўся», кабацкі шансон «В одну минуточку утёнок уточку» з пераходам на «Цыплёнок жаренный». А людзі прасілі: «Хай гэты хлопец на гусаку зайграе». «Гусаком» назвалі саксафон.

Калі ў 1978 годзе Ахунзянаў з'ехаў у Варкуту, на ўдарных стаў іграць **Сямён Пісманік** – мой добры сябар. Родам ён з Віцебска, ажаніўся з вілейскай дзяўчынай **Шурай Петрыкевіч**, сяброўкай і аднакласніцай маёй жонкі **Людмілы**. Сямён быў добрым барабаншчыкам, меў прыгожы барытон, нядрэнна іграў на баяне, мог працаваць як тамада. Ён заўсёды праводзіў «маршы». На іх мы збіралі суму большую, чым нам плацілі за вяселле. Тады рэшту дзялілі паміж музыкантамі і жаніхом. Усе былі задаволеныя.

### З-за кватэры – у Варкуту

З-за кватэры, з якой не атрымалася на «Зеніце», перайшоў на «Буддэталі». Жыллё паабяцаў мне тагачасны дырэктар **Леанід Шавель**. Кватэры я не атрымаў, хоць адпрацаваў там шэсць гадоў: адну палову тыдня – у клубе, другую – зварышчыкам у майстэрні. Я пасля шкадаваў, што сышоў з «Зеніта». Навуменкаў і Пісманік дапамагалі мне з самадзейнасцю на «Буддэталях»: выступалі з канцэртамі, ездзілі ў падшэфны калгас. На прадпрыемстве ў нас быў добры саксафаніст, былы музыкант Калінінградскай філармоніі **Валеры Хуртаў** і бас-гітарыст, мой выхаванец і сусед па Стаханаўскай **Уладзімір Яцэвіч**.

І ўсё ж па запрашэнні Ахунзянава мусіў ехаць у Варкуту. Тут працаваў зварышчыкам. Кватэру атрымаў за тры месяцы, а праз год – яшчэ большую, трохпакаёвую, у цэнтры горада. У Вілейцы я чакаў гэтай падзеі 11 год. Але Варкута – гэта іншая старонка майго жыцця і да музыкі яна не мае ніякіх адносін.

**Уладзімір БАЛБАЧАН,**
**Вілейка.**
**Фотаздымкі забяспечаныя аўтарам.**

Больш даведацца пра творчасць Уладзіміра Балбачана і паслухаць яго песні можна на сайце bard-bal.byethost9.com.




Смаргонцы пачалі сезон з паражэння.

# «Смаргонь» згуляла першы матч у вышэйшай лізе ў сезоне-2021

**У міжсезонні смаргонцы трэніраваліся на гарадскім стадыёне, а размоў пра замежныя зборы гаворка не ішла. Ужо ў сакавіку 2021 года «Смаргонь» выступіла ў вышэйшай лізе. Расказваем, як адбыўся дэбют і як смаргонскія футбалісты прыйшлі да галоўнай лігі краіны.**

У сезоне-2020 падчас выступлення ў першай лізе смаргонская каманда магла пахваліцца добрай абаронай. Ужо ў міжсезонні абаронцы «Смаргоні» зацікавілі іншыя каманды, аднак сур'ёзна лінія абароны ў каманды не пацярпела. Самым гучным трансферам аказалася вяртанне **Леаніда Ковеля**, былога выхаванца дзіцячай футбольнай школы «Смаргоні».

### Першая гульня ў сезоне

13 сакавіка смаргонцы сустракаліся з «Энергетыкам-БДУ» на полі ў Мінску. У першым тайме з перадачы **Уладзіслава Васільева Арцём Шкурдзюк** забіў гол – гэта быў мяч з розыгрышу вуглавога. Напрыканцы другога тайма «Энергетык» адзначыўся яшчэ двума мячамі. **Арцём Васільеў** з перадачы Уладзіслава Васільева забіў гол са штрафнога. А за пяць хвілін да канца сустрэчы **Данііл Вігоўскі** рэалізаваў шанец: забіў трэці гол у вароты смаргонцаў.

«Энергетык-БДУ» 3:0 «Смаргонь» (галы: **Арцём Шкурдзюк**, **Арцём Васільеў**, **Данііл Вігоўскі**).

Галоўны трэнер «Смаргоні» **Вячаслаў Герашчанка** патлумачыў паражэнне кепскім надвор'ем:

– Першы тайм мы гулялі супраць ветру, «Энергетык» меў перавагу. Не магу сказаць, што было шмат галявых момантаў, але невялічкая тэрытарыяльная перавага была. Прапусцілі непатрэбны мяч са стандарту.

Па словах Герашчанкі, смаргонцы маглі змяніць сітуацыю ў гульні ў другім тайме, аднак у каманды няма чалавека, які можа выканаць дакладны ўдар са стандарту.

Галоўны трэнер «Энергетыка» **Уладзімір Бляхоўскі** расказаў у інтэрв'ю пасля матча, што гульня была напружаная, а перамогу каманды прысвячае памерламу менеджару каманды **Уладзіміру Пігулеўскаму**.

### Што было са «Смаргонню» ў сезоне-2020

У мінулым сезоне смаргонцы выступалі ў першай лізе. У першай палове чэмпіянату каманда знаходзілася на першым месцы, а пасля вынікі выступленняў на футбольным полі сапсаваліся. У выніку «Смаргонь» завяршыла чэмпіянат на шостым месцы. Па спартыўным прынцыпе смаргонцы ніяк не праходзілі ў вышэйшую лігу, аднак пасля закрыцця «Гарадзеі» футбалісты з райцэнтра Гродзенскай вобласці атрымалі права на павышэнне ў дывізіёне.

**Настасся УТКІНА.**

## Мікіта Букацін будзе выступаць за «Астравец»

Футбаліст Мікіта Букацін цяпер афіцыйна з'яўляецца гульцом ФК «Астравец». Аб гэтым паведамляе прэс-служба клуба.

«Астравец» пачне сезон у другой лізе. У мінулым годзе астравецкая каманда дэбютавала ў прафесійным беларускім футболе.

Апошнім клубам Букацін быў казахстанскі «Алтай» з Усць-Каменагорска (9 матчаў, 1 галявая перадача). У кар'еры паўабаронцы былі шматлікія беларускія каманды і замежныя клубы: салігорскі «Шахцёр», наваполацкі «Нафтан», «Мінск», бабруйская «Белшына», брэсцкае «Дынама», «Іслач», «Рух», узбекскі «Маш'ял».

У вышэйшай лізе Беларусі Букацін згуляў усяго 254 матчы, адзначыўся 12 галамі. У першай беларускай лізе – 25 матчаў і 1 гол.

Футбаліст з'яўляецца бронзавым прызёрам чэмпіянату Беларусі (2007), уладальнікам Кубка Беларусі (2012, 2013, 2017), фіналістам Кубка Беларусі (2008, 2009), бронзавым прызёрам моладзевага чэмпіянату Еўропы (2011).

**Аддзел інфармацыі.**

## У другой лізе згуляе больш за 90 футбольных камандаў

Футбольны інтэрнэт-партал Football.by паведамляе, што ў сезоне-2021 другая ліга будзе самай маштабнай за ўсю гісторыю: у чэмпіянаце могуць згуляць 94 каманды.

У сезоне-2021 будзе сем зон (шэсць абласцей і Мінск). Да тых, хто застаўся ў другой лізе пасля чэмпіянату-2020, дададуць удзельнікаў чэмпіянатаў абласцей.

– Можна сказаць, што АБФФ аддала другую лігу на водкуп абласцям, – мяркуюць аўтары Football.by.

Плануецца, што спачатку каманды будуць гуляць унутры сваіх рэгіёнаў, а пераможцы выйдуць у стадыю плэй-оф. У фінальным раўндзе яны будуць змагацца за месцы ў першай лізе.

Пакуль яшчэ не вырашана пытанне, колькі камандаў ад кожнай зоны выйдзе ў гэты раўнд: ці 8, ці 16. Дакладна вядома, што колькасць камандаў у зонах будзе розная. У Гродзенскай вобласці збіраецца 13 камандаў, у Віцебскай – 14, ад Магілёўскай – 12. Ад Гомельшчыны могуць удзельнічаць 8 альбо 11 калектываў, ад Брэсцкай вобласці – ці 12, ці 14. Ад Мінршчыны – 22 футбольныя каманды. Асобна ад абласцей вылучаецца Мінск: са сталіцы ў розыгрышы другой лігі прымуць удзел 8 ці 14 камандаў. Дакладныя лічбы будуць вядомыя пазней.

Таксама Football.by паведамляе, што «Дынама-1960» з Маларыты і «Астраўца» могуць прапанаваць удзел у першай лізе.

**Аддзел інфармацыі.**

## «Дынама-Маладзечна» прайграла «Металургу»

«Дынама» прайграла ў шостым матчы серыі плэй-оф жлобінскаму «Металургу». Сустрэча завяршылася з лікам **2:1** на карысць «Металурга».

Маладзечанцы перамаглі толькі ў дзвюх гульнях серыі. Такім чынам, дынамаўцы завяршаюць выступленне ў серыі плэй-оф і бягучым сезоне.

**Настасся УТКІНА.**

# Крыжаванка ад «Рэгіянальнай газеты»



**ПА ГАРЫЗАНТАЛІ:**
2. Невялікая гліняная пасудзіна, місачка з загнутымі ўнутр краямі.
3. Мянушка, якую хрысціяне далі шэрагу асманскіх адміралаў 16 стагоддзя. Літаральна перакладаецца як «рыжая барада».
5. Савецкі партыйны дзеяч, які падчас пленума 1953 года крытыкаваў нацыянальную палітыку КПБ. Ён наракаў, што ў БССР жыве 81% беларусаў, а ў апараце партыйных органаў краіны іх 62,2%. Прапанаваў прыняць рэзалюцыю аб пераводзе справаводства ўрада, а таксама рэспубліканскіх і мясцовых партыйных і савецкіх органаў на беларускую мову.
9. Сукупнасць устойлівых псіхічных уласцівасцяў чалавека, яго асабістых рыс, якія праяўляюцца ў паводзінах і дзейнасці.
10. Тое, што і млынар.
12. Частка твару ад скулы да ніжняй сківіцы.
14. Невялікая тонкая пласцінка, кавалак, адколаты па слаі дрэва.
17. На сцягу Алімпійскіх гульняў размешчаны пяць кольцаў. Кожнае сімвалізуе кантынент, прадстаўнікі якога ўдзельнічаюць у гульнях. Які колер сімвалізуе Еўропу?
18. Празрысты каштоўны камень залаціста-зялёнага колеру, разнавіднасць алівіну.
20. На гербе штата Канзас размешчаная выява чэрапа. Чый гэта чэрап?
21. Тонкі завостраны з аднаго канца шрубападобны металічны стрыжань з ручкай, які служыць для адкаркоўвання бутэлек.
22. Частка вупражы, што складаецца з драўлянага каркаса, абкладзенага мяккім лямцам з унутранага боку.

**ПА ВЕРТЫКАЛІ:**
1. Нямоцны, ненадзейны, нетрывалы.
4. У геаграфіі – адна з каардынат, якая вызначае месцазнаходжанне пункта па зямной паверхні; адлегласць ад экватара па мерыдыяну, якая выражаецца ў градусах.
6. Пахучая смала некаторых трапічных дрэў (выкарыстоўваецца для абкурвання ў час рэлігійных абрадаў).
7. Прадказанне ў залежнасці ад часу нараджэння.
8. Хімічны элемент, метал чырвананатага колеру, вязкі і коўкі.
11. Доктар.
12. Сцегнавая ці лапатачная частка тушы свінні або барана, адпаведным чынам прыгатаваная для ўжывання.
13. Пімен Панчанка: «Той дзень, лічы, завянуў пустацветам, Калі ты пяць хвілін пашкадаваў, Каб дзецям паказаць куточак свету І ... людзей, і дрэў, і траў».
15. Шчыльна ўмяць нагамі.
16. Адміністрацыйны орган у СССР для аховы грамадскага парадку і бяспекі.
18. Пра што кажуць італьянцы: «Кожная раніць, а апошняя забівае».
19. Цукар, які ўтрымліваецца ў малацэ млекакормячых; малочны цукар.

## Адказы на крыжаванку з №11

**ПА ГАРЫЗАНТАЛІ:** 1. Адрас. 4. Чэмпіён. 6. Рабат. 7. Мандрагора. 10. Ягайла. 11. Гусь. 13. Дудка. 14. Вёска. 15. Таксі. 17. Нішто. 22. Аракул. 23. Нуда. 24. Алергія. 26. Мадэль. 28. Акулы.

**ПА ВЕРТЫКАЛІ:** 2. Дакор. 3. Нястача. 5. Дазатар. 8. Нерв. 9. Чыгунка. 12. Значок. 16. Акварэль. 18. Драма. 19. Свінец. 20. Начнік. 21. Шайка. 22. Акадэмія. 25. Зусім. 27. Дарадчык.

## ● ГАРАСКОП НА 19-25 САКАВІКА


**АВЕН.** Вы з радасцю вернецеся да працы і паўсядзённых клопатаў. Станоўчыя вынікі прынясуць паездкі і справы, звязаныя з пашырэннем поля дзейнасці. У выхадныя варта падрыхтавацца да нечаканых сустрэч.


**ЦЯЛЕЦ.** Звяртайце пільную ўвагу на тое, што адбываецца вакол вас. Захоўвайце эмацыйную раўнавагу, пры гэтым давярайце інтуіцыі. Не варта прыспешваць падзеі – адпусціце сітуацыю, усё складзецца найлепшым чынам.


**БЛІЗНЯТЫ.** Вас чакае павелічэнне актыўнасці ў інтэлектуальнай сферы, нестандартны падыход дазволіць справіцца з любой праблемай. Сітуацыя складваецца на вашу карысць. Вы ўпэўнена крочыце да сваёй мары. Пацешаць і кар'ера, і каханне.


**РАК.** Вы можаце дасягнуць шмат чаго. Засяродзьцеся на галоўным, не растрачвайце энергію на дробязі. Цяжкасці цалкам пераадольныя. Усё гэта яшчэ і загартуе характар.


**ЛЕЎ.** Ёсць рызыка стаміцца ад рашэння чужых праблем. Стрымайце палёт фантазіі, час для гэтага няўдалы. У другой палове тыдня паўстануць праблемы з пунктуальнасцю як па вашай віне, так і па прычынах, не залежных ад вас.


**ДЗЕВА.** Абстаноўка ў прафесійнай сферы ўдалая для актыўных дзеянняў, а падтрымка калег і сяброў гарантаваная. Стаўце рэальныя мэты, каб потым не расчараваацца. Стабільнасць кар'еры будзе залежаць ад умення дамаўляцца з людзьмі.


**ШАЛІ.** Ёсць верагоднасць цікавай паездкі, кар'ернага росту і прыемных перамен у асабістым жыцці. У нядзелю паспрабуйце ўспрымаць тое, што адбываецца, без лішніх эмоцый.


**СКАРПІЁН.** Жыццё на вагах мяняецца да лепшага. Хоць многае будзе залежаць ад вашага настрою і пачуцця такту. Каханне падорыць радасць і натхненне, пакажа шлях да шчасця. Досвед і майстэрства прынясуць значны прыбытак.


**СТРАЛЕЦ.** Нават калі будуць крытыкаваць, не збочвайце з абранага шляху. Накіруйце ўсе сілы на дапрацоўку бягучых службовых праектаў. Не ўступайце ў разборкі з сям'ёй.


**КАЗЯРОГ.** Гэты перыяд можа апынуцца поўным выпадковасцяў. Не імкніцеся трымацца за свае планы, а давярайце інтуіцыі. Вы зможаце завесці важныя знаёмствы, у тым ліку дзякуючы красамоўству і ўменню пераконваць.


**ВАДАЛЕЙ.** Магчыма, вы зразумееце, з якіх элементаў складаецца ваша жыццё. Не паддавайцеся на эмацыйныя правакацыі, калі не хочаце адчуць сябе знясіленымі. У нядзелю пераважны пасіўны адпачынак.


**РЫБЫ.** Дынамічны і напоўнены разнастайнымі падзеямі перыяд. Вы гатовыя да новага, што б там ні было яго крыніцай. Ужо з панядзелка варта заняцца рэалізацыяй задуманага. Не губляйце часу на сумненні і занадта доўгую падрыхтоўку.

**Эмілія ХВОЯ.**

## ● СУДОКУ

| | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 5 | | 3 | | 4 | 7 | | | |
| | | 7 | | | 3 | 2 | 5 | |
| | | 9 | 2 | | | | | 7 |
| | | | | 1 | | 4 | 2 | 6 |
| | | | | 6 | | 8 | 9 | |
| 6 | | | | | 8 | 1 | | |
| | | 4 | | | 6 | 5 | | |
| | | | 9 | | 1 | | 4 | 8 |
| | | | 3 | 7 | | | | |

**Запоўніце ўсе пустыя клеткі з дапамогай лічбаў ад 1 да 9 так, каб у кожным радку, слупку і кожным раёне (3х3) лічба ад 1 да 9 сустракалася толькі адзін раз.**

Рэгіянальная газета. Rh.by



# Жыхар Крэва ў сваім двары святкаваў з сябрамі Масленіцу. Супраць яго ўзбудзілі адміністрацыйную справу

СМАРГОНЬ

**Жыхар Крэва, фатограф Сяргей Гапон, 14 сакавіка зладзіў Масленіцу. Людзі танцавалі, спявалі, палілі вогнішча, частаваліся блінамі.**



Фота Юрыя СІДУНА.

Падчас святкавання Масленіцы ў Крэве. Сяргей Гапон другі злева, Вольга Хіжынкова справа ад яго.

Свята адбывалася на схіле Юравай гары, на прыватным падворку Сяргея.

– Мне патэлефанаваў участковы, сказаў, што праз пэўны час прыедзе разам са смаргонскай міліцыяй. На месцы папрасілі выйсці да іх, каб не турбаваць гасцей сваёй прысутнасцю, – раскажаў карэспандэнту суразмоўца.

Тут Сяргею ўручылі позву на яго прозвішча для дачы пісьмовых тлумачэнняў. Мужчына быў у Смаргонскім РАУС. Даведаўся, што супраць яго ўзбудзілі адміністрацыйную справу па артыкуле 24.23 Кодэкса аб адміністрацыйных парушэннях – парушэнне парадку арганізацыі або правядзення масавага мерапрыемства.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

## Чытайце праз тыдзень:

- **У Смаргонскім цэнтры сацыяльнага абслугоўвання насельніцтва завяршыўся сумесны беларуска-фінскі праект «Прававая школа для жанчын». Гутарым з арганізатарамі з Беларусі і Фінляндыі, а таксама з удзельніцамі праекта.**

## 20 сакавіка, субота

**Вецер:** паўночна-заходні, 2-4 м/с




### ЭКСТРЭМУМЫ НАДВОР'Я. ВІЛЕЙКА

Мінімальная тэмпература -26,7°С у 1963 годзе
Максімальная тэмпература +19°С у 1990 годзе
Максімальная колькасць ападкаў 14,3 мм у 2001 годзе

Паводле meteoinfo.by.



● ЭКСПРЭС-АПЫТАННЕ Ў МАЛАДЗЕЧНЕ

## Якія ўражанні ў вас засталіся ад Усебеларускага сходу?

Больш за месяц таму, 11-12 лютага, прайшоў Усебеларускі народны сход. На ім аб'явілі аб стварэнні камісіі, якая будзе разглядаць папраўкі і змяненні да Канстытуцыі. 15 сакавіка стала вядома, што канстытуцыйная камісія сфармаваная і правяла першае пасяджэнне. «Рэгіянальная газета» вырашыла даведацца ў маладзечанцаў, якія ў іх уражанні засталіся ад Усебеларускага сходу і што яны ад яго чакалі.

**Тамара:**
– Які сход? Я не ў курсе.



**Вольга:**
– Ніякіх. Не глядзела, не цікаўлюся. Вельмі высокае нервовае напружанне.



**Раман:**
– А я не хадзіў. Я ўвесь у вучобе, таму па большай частцы нічога не ведаю пра навіны.



**Міхаіл:**
– Добрае. Мяне ўсё задавальняе, мне ўсё падабаецца.



**Леанід:**
– Меркаванне ёсць. У мяне няма прыгожых слоў, каб сказаць пра гэту справу. Сабраліся, як быццам бы гэта быў партыйны сход. А якія вынікі будуць пасля гэтага сходу? Пажывём, пабачым.



**Валер:**
– Нармальныя, вельмі было прыемна паслухаць.



**Таццяна:**
– Я яго практычна не глядзела, бо шмат часу праводжу на працы. Тое, што чула па радыё і тэлебачанні, – гэтыя водгукі мяне не ўражваюць.



**Аддзел інфармацыі.**

Рэгіянальная газета. Rh.by
Аб'ём 6 друкарскіх аркушаў фармату А2.
Тыраж 3500 экз. Індэкс 63212 (індывідуальная падпіска), 632122 (ведамасная падпіска).
№12 (1351) 19.03.2021. У розніцу – цана свабодная.
Друкарня ТАА «РоллПрынт», 220137, г. Мінск, вул. Халмагорская, 59-а.
Ліцэнзія №023484 ад 16.02.2018 г.
Зак. 461. Падпісана ў друк у 9.00 18.03.2021.
**Галоўны рэдактар Аляксандр Барысавіч МАНЦЭВІЧ.**


Заснавальнікі: Аляксандр Манцэвіч, Ніна Манцэвіч.
Рэдакцыя: **222310, Маладзечна, Вялікі Гасцінец, 143, оф. 518.**
Тэл.: **(80176) 53-78-04** (рэклама, факс), **53-78-05** (дырэкцыя, загадчык аддзела інфармацыі), **53-78-06** (журналісты), **(8029) 573-28-47, 676-84-20.**
E-mail: **reklama@rh.by, regionnews@rh.by.** Web: **http://rh.by, рг.бел.**
Разліковы рахунак BY06BELB30121640300040226000 у ААТ «Банк БелВЭБ» аддзяленне ў Маладзечне, BELBBY2X, атрымальнік ТАА «Рэдакцыя газеты «Рэгіянальная газета», УНН 600288444, АКПА 06082329.
Пасведчанне №731 ад 12.10.2009 г. Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь.